E-mail: nchas@promedia.by

# Новы Час

№ 2(7) БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА 30. 01 – 12. 02. 2003 ГОДА ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63773

## Скарбніца



### Услед за Мірскім замкам

Дэпартамент па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Міністэрства культуры вызначыў паўсотні помнікаў беларускай архітэктуры, якія прапануецца ўключыць у Спіс сусветнай культурнай спадчыны ЮНЕСКО.

У перспектыве кампанію Мірскаму замку ў гэтым пачэсным рэестры могуць скласці Аўгустоўскі канал, Барысаглебская царква ў Гродне (Каложа), Сынкавіцкі храм, Спаса-Еўфрасіннеўская царква ў Полацку, руіны замкаў у Навагрудку і Крэве. З гэтых аб'ектаў Аўгустоўскі канал добра дагледжаны ў той частцы, якая знаходзіцца ў Польшчы, і кепска на нашай палавіне. Рэстаўрацыя унікальнага помніка архітэктуры – Каложскай царквы – проста немагчымая без дапамогі ЮНЕСКО, паколькі пальтрабуе інжынернага ўмацавання схіла, на якім літаральна нависае над Нёманам. Што тычыцца Крэўскага замка, дык ён з мноства славутых помнікаў, відаць, у самым бядотным стане.

Варта спадзявацца, што абуджаная ўрэшце ўвага паспрыяе захаванню гэтай старажытнай аздобы беларускай зямлі.

## У нумары



# Пасёлак «Солнечный», ці Школа цынізму



Калі болей за год таму, у часе пашырэння Мінскай кальцавой аўтадарогі, валанцёры, абараняючы Курапаты, пільнавалі дрэвы, ставілі ўздоўж шашы крыжы, неўзабаве засыпаныя зямлёй, чынавенства і актыўныя прадстаўнікі бізнесу вырашалі праблему Курапатаў прагматычна. Пастаўлены моладдзю намёт, дым ад вогнішча, узняты сцяг стварылі зручную завесу, за якой не было бачна, як **старшыня Мінскага раённага выканкама сп. Л.В.Русак** 22 лістапада 2001 года падпісаў «Рашэнне» за №1637, цікавае пунктам 2 (гэтая і ўсе наступныя цытаты прыводзяцца на мове арыгінала):

**«...2. Разрешить обществу с дополнительной ответственностью «Вивестрой» проведение изыскательских работ на земельных участках учебно-опытного хозяйства имени Фрунзе общей площадью 60,6 га (первая очередь – 29,5 га, вторая очередь – 31,1 га) в том числе пахотных земель – 60,1 га, земель под дорогами – 0,5 га, для разработки проектно-сметной документации строительства жилого района коттеджной застройки и объектов соцбыткульта».**

Так афіцыйна, сціпла, таямніча пачаўся будаўнічы паход да мясціны масавых расстрэлаў савецкіх грамадзянаў у Курапатах.

Працяг на стар. 3

# Зварот да грамадзян Рэспублікі Беларусь

Паважаныя суайчыннікі!

Не сакрэт, што наша родная Беларусь перажывае не самы спрыяльны перыяд сваёй гісторыі: нерэфармаваная эканоміка ніяк не выберацца з крызісу, пастаянна і няўхільна растуць цэны, без падтрымкі дзяржавы марнеюць нацыянальная культура і навука, з-за сур'ёзных пралікаў у знешняй палітыцы краіна ўсё больш набліжаецца да міжнароднай ізаляцыі. Паўстае пагроза не толькі суверэнітэту Рэспублікі Беларусь, а і наогул існаванню нацыянальнай дзяржавы беларусаў.

У гэтых умовах увага і надзея многіх грамадзян заканамерна звернута да інтэлігенцыі. Усім беларускім інтэлектуалам варта неадкладна і сумесна задумацца, як згуртаваць усе свядомыя сілы грамадства для абароны роднай дзяржавы, для вызначэння далейшага лёсу Бацькаўшчыны, як прадухіліць пагрозу далейшага эканамічнага і энергетычнага крызісу, што рабіць для змякчэння наступстваў чарнобыльскай катастрофы, якім чынам пазбегнуць абвастрэння дэмаграфічных і экалагічных праблем, дзе знайсці сваё месца ў сусветных працэсах глабалізацыі, як дабіцца строгага захавання ўсімі Канстытуцыі і законаў краіны, чым дапамагчы пашырэнню роднай мовы, як паўнапраўна ўвайсці ў дэмакратычную еўрапейскую супольнасць.

Толькі тады, калі кожны з нас будзе адчуваць адказнасць за ўсё, што адбываецца на нашай зямлі, калі мы рашуча адкінем спробы навязаць нам ролю паслухмяных «вінцікаў» сістэмы, мы здолеем «людзьмі звацца» і захаваем сваю нацыянальную тоеснасць і дзяржаўны суверэнітэт Беларусі. Інакш мы застанемся на ўзбочыне сучаснага прагрэсу і рана ці позна знікнем з памяці чалавецтва як народ, не варты павагі і падтрымкі.

Таму мы горача падтрымліваем прапанову аб скліканні Сходу інтэлігенцыі і ўхваляем захады рабочай групы па яго падрыхтоўцы. Заклікаем усіх, хто працуе на ніве навукі, культуры, адукацыі, аховы здароўя, журналістаў, дзяржаўных службоўцаў, інжынераў, прадпрымальнікаў, усіх, для каго дарагія ідэалы народнага шчасця і духоўнага адраджэння, паслаць на Сход паўнамоцных прадстаўнікоў.

Шчыра спадзяемся, што Усебеларускі сход інтэлігенцыі дапаможа адчуць нашу агульную еднасць, накрэсліць хуткага і цывілізаванага выйсця Радзімы з крызіснага становішча і стане прыкметнай падзеяй у гісторыі незалежнай і годнай Беларусі.

10 студзеня 2003 г.

**Янка Брыль, народны пісьменнік Беларусі**
**Радзім Гарэцкі, акадэмік**
**Ніл Гілевіч, народны паэт Беларусі**
**Леанід Шчамялёў, народны мастак Беларусі**
**Уладзімір Стальмашонак, народны мастак Беларусі**
**Генадзь Бураўкін, паэт**
**Аляксандр Карпаў, рэжысёр**
**Уладзімір Арлоў, рэжысёр**
**Андрэй Ганчарэнка, акадэмік**
**Алег Трусаў, старшыня ТБМ**
**Васіль Зуёнак, паэт**

## Памятныя дні

**1 лютага**

**1863.** Пачатак паўстання пад кіраўніцтвам Канстанціна Каліноўскага.

**1913.** Нарадзіўся вядомы дзяржаўны дзеяч БССР Сяргей Прытыцкі, той самы, імем якога названая вуліца ў Мінску ды багата яшчэ ў якіх беларускіх гарадах. На «Беларусьфільме» пра яго нават знялі фільм «Чырвонае лісце».

**2 лютага**

**1838.** Нарадзіўся Канстанцін Каліноўскі – выключная па значнасці асоба ў беларускай гісторыі, пачынальнік беларускага нацыянальнага руху.

**1892.** У Мінску адбылася пастаноўка першай беларускай оперы «Сялянка» паводле п'есы Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча на музыку Станіслава Манюшкі.

**1938.** Нарадзілася беларуская спартсменка, трохразовая алімпійская чэмпіёнка па фехтаванні Таццяна Самусенка.

**4 лютага**

**1746.** Нарадзіўся Тадэвуш Касцюшка, ачольнік вядомага антырасійскага паўстання. З'явіўся на свет ён у фальварку Мерачоўшчына каля Косава на Брэстчыне, а памёр у мястэчку Салюрн у Швейцарыі. Зрэшты, лёс закідаў Касцюшку і за Атлантычны акіян. Ён удзельнік вайны за незалежнасць Злучаных Штатаў Амерыкі, быў галоўным інжынерам амерыканскай рэспубліканскай арміі, Кангрэс надаў яму званне ганаровага грамадзяніна ЗША.

**1808.** Нарадзіўся пісьменнік Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, аўтар такіх хрэстаматыйных твораў, як «Пінская шляхта», «Гапон», «Залёты». У 1864–1866 гадах быў арыштаваны царскімі ўладамі як магчымы аўтар пракламацыйных вершаў, знаходзіўся пад следствам, зведаў зняволенне ў Мінскай турме (Пішчалаўскім замку).

**1931.** Пасля выкліку на допыт у НКУС скончыў жыццё стрэлам у скронь першы прэзідэнт беларускай Акадэміі навук, вядомы палітычны дзеяч, гісторык Усевалад Ігнатоўскі.

**1978.** Пайшоў з жыцця паэт Аркадзь Куляшоў. Гэтыя ягоныя радкі ведае са школы ці не кожны беларус: «Цвёрда трымаўся юнак на дапросе, тоячы думкі і словы свае. Вораг-жандар дакурыў папяросу і камсамольскі білет дастае». Многія выдатна ведаюць і песню «Алеся» ў выкананні «Песняроў», верш да якой паэт напісаў, калі яму было ўсяго 14 гадоў.

**5 лютага**

**1923.** Нарадзіўся адзін з самых вядомых сучасных беларускіх мастакоў Леанід Шчамялёў.

**7 лютага**

**1478.** Нарадзіўся англійскі філосаф Томас Мор, аўтар славутай «Утопіі».

**8 лютага**

**1828.** Хто з нас не чытаў раманы французскага пісьменніка Жуля Верна, які нарадзіўся ў гэты дзень: «Таямнічая выспа», «20 000 лье пад вадой», «З Зямлі на Месяц», «Дзеці капітана Гранта» ды іншыя.

**9 лютага**

**1881.** Памёр рускі пісьменнік беларускага паходжання Фёдар Дастаеўскі, адзін з самых чытэльных у свеце аўтараў. У Беларусі хіба знойдзецца чалавек, які не чытаў хаця б «Злачынства і пакаранне» са школьнай праграмы.

**1893.** У парыжскім «Мулен Руж» адбыўся першы ў свеце стрыптыз. Падчас студэнцкай вечарыны ў часе імправізаванага конкурсу прыгажосці адна мадэль скінула з сябе чыста ўсю вопратку. Яе арыштавалі і прысудзілі 100 фунтаў штрафу. Гэта выклікала абурэнне многіх парыжан і беспарадкі ў французскай сталіцы.

**11 лютага**

**1918.** Нарадзіўся Аляксандр Салжаніцын, расійскі лаўрэат Нобелеўскай літаратурнай прэміі, аўтар дакументальнага даследавання «Архіпелаг ГУЛАГ».

**1959.** У Мінску адкрыўся Дзяржаўны цырк. Дарэчы, па такім самым архітэктурным праекце пабудаваны кіеўскі цырк.

**12 лютага**

**1798.** У Санкт-Пецярбургу пайшоў з жыцця апошні кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, які сам выракся кароны і жыў як ганаровы вязень у Мармуравым палацы.

**13 лютага**

**1883.** Памёр нямецкі кампазітар Рыхард Вагнер, які напісаў такія вядомыя оперы, як «Трыстан ды Ізольда» і «Кальцо Нібелунгаў». Другой ягонай жонкай была дачка Ферэнца Ліста – Казіма, якая была ўдвая маладзейшая за яго. У апошні дзень жыцця, калі ў Вагнера схапіла сэрца, ён запатрабаваў да сябе жонку ды доктара. Калі з кампазітара сталі здымаць, каб яму лягчэй дыхалася, вопратку, на падлогу зваліўся ягоны гадзіннік, падораны Казімай. Вагнер паспеў толькі вымавіць: «Мой гадзіннік!» То былі ягоныя апошнія словы.

**1903.** Нарадзіўся бельгійскі майстар дэтэктыву Жорж Сіменон. Менавіта гэты чалавек прыдумаў інспектара Мегрэ. Сіменон быў здольны пісаць да 80 старонак на дзень.

**14 лютага**

Дзень святога Валянціна. У гэты дзень закаханыя віншуюцца і дораць адзін аднаму самыя разнастайныя сэрцайкі-валянцінкі – папяровыя, шакаладныя, тортавыя.

**1813.** Нарадзіўся кампазітар Аляксандр Даргамыжскі, аўтар оперы «Русалка» і заснавальнік рускай класічнай музыкі.

Кірыла ПАЗНЯК

# Ён пайшоў за аблокі

Перастаў гучаць голас мастацкага кіраўніка легендарнага беларускага гурта «Песняры» Уладзіміра Мулявіна. Мы больш ніколі не пачуем яго ўжывую, але ў многіх з нас ён застанецца ў памяці і ў музычных запісах.

Спявак і кампазітар так і не здолеў адужаць пасля аўтааварыі, у якую ён трапіў у леташнім траўні, калі ягоны «Мерседэс» на хуткасці каля 130 км/г не ўпісаўся ў паварот і ляснуўся ў дрэва. Уладзімір Мулявін стаўся паралізаваным і на доўгія месяцы прапісаўся ў бальнічных палатах – напачатку ў Мінску, а потым у Маскве. Прыканцы мінулага года ў ягоных сваякоў і прыхільнікаў творчасці з'явілася надзея, што Мулявін здолее выкараскацца: урачы пачалі казаць пра пэўнае паляпшэнне. Музыка быў нават перасеў у інвалідную каляску і меўся неўзабаве з'явіцца на сцэне. Але ў сярэдзіне студзеня лідэру «Песняроў» раптоўна пагоршала, і ён апынуўся ў рэанімацыі. Там Уладзімір Мулявін перажыў ажно дзве клінічныя смерці, але трэцяя, на вялікі жаль, забрала яго ад нас...

«Песняроў» ведалі і любілі не толькі ў Беларусі, а спрэс па ўсім былым Савецкім Саюзе, а з 1977 года, калі яны зрабілі трыумфальнае канцэртнае турнэ па ЗША, нават па ўсім свеце. Гэта сапраўды легендарны гурт, варты называцца ў адным шэрагу са славутымі «Бітлз».

Але ўсё-такі перш за ўсё «Песняры» – гэта нашае. Сваёй файнай музыкай яны не далі беларусам забыцца пра фальклор, то бок цешылі не толькі слых, але і душу. Прынамсі, усе ведаюць песню «Касіў Ясь канюшыну». А ёсць жа яшчэ «Рэчанька», «Купалінка», «Рушнікі», «Сівы конь бяжыць»... Але ж, пэўна, у кожнага з вас свае ўлюбёныя «песняроўскія» песні!? Аднак «Песняры» папулярызавалі не толькі беларускія народныя песні: гурт густоўна паклаў на музыку багата вершаў беларускіх паэтаў – ад Янкі Купалы і Максіма Багдановіча да Аркадзя Куляшова і Генадзя Бураўкіна.



«Песняры» былі адным з самых плённых чыннікаў па прышчапленні беларусам беларускасці, прынамсі, музычнай. І гэта пры тым, што мастацкі кіраўнік гурта Уладзімір Мулявін не быў беларусам. Ён нарадзіўся у 1941 годзе ў Свярдлоўску, адкуль па сканчэнні музычнай вучэльні перабраўся ў Беларусь, а ў 1969 годзе ачоліў вакальна-інструментальны ансамбль «Песняры». Не быў ён і беларускамоўным, і нават дзе-нідзе ў спяваных ім песнях праскоквае мяккае «ч». Але Мулявін шчыра любіў і, галоўнае, выдатна адчуваў беларускую музыку і беларускую паэзію. Упадабанае ім ставілася «песняроўскімі» песнямі, любімымі ў сваю чаргу ў народзе. Такое вось пасярэдніцтва атрымлівалася. Таму Уладзімір Мулявін не проста прафесійны і таленавіты музыка, а сапраўдны Пясняр.

Мар'ян КАРЫМОНТ

# Індывідуалаў паменшае

Тры дні таму быў падпісаны Дэкрэт № 4 "Аб адзіным падатку з індывідуальных прадпрымальнікаў і іншых фізічных асобах і аб некаторых мерах па рэгуляванні прадпрымальніцкай дзейнасці". Цяпер для здзяйснення прадпрымальніцкай дзейнасці без утварэння юрыдычнай асобы ўстаноўлена абмежаваная колькасць наёмных працаўнікоў - да трох чалавек, акрэслены парадак перарэгістрацыі індывідуальных прадпрымальнікаў у камерцыйныя структуры, прадугледжаны меры адказнасці за парушэнне дадзенага патрабавання. Дэкрэт набывае моц з 1 сакавіка бягучага года.

Гэта азначае, што ўрад вырашыў паставіць перашкоду перад імклівым скарачэннем колькасці юрыдычных асоб і іх пераходам у індывідуальнае прадпрымальніцтва. Сапраўды, пасля прыняцця ў траўні 2001 года дэкрэта № 12 у Беларусі толькі за паўгады колькасць індывідуалаў узрасла на некалькі тысяч. Уладальнікі малых і сярэдніх прадпрыемстваў, задушаныя падаткамі, паспяшаліся трансфармавацца, бо пад шыльдай індывідуальнага прадпрымальніка весці бізнес было прасцей.

Як неаднаразова папярэджвалі прадстаўнікі Беларускага саюза прадпрымальнікаў, у Беларусі суадносіны афіцыйнай і "шэрай" эканомікі складаюць прыкладна 1:1. Прыняты дэкрэт № 4 падштурхне беларусаў да вынаходніцтва новых вытанчаных прыёмаў ухілення ад уплаты падаткаў. Аднак пасля перарэгістрацыі індывідуалаў у юрыдычныя асобы афіцыйная статыстыка адзначыць рост прадпрыемстваў, што будзе пададзена як развіццё прадпрымальніцтва ў адпаведнасці цывілізаванаму стандарту..

П.К.

# Пасёлак «Солнечный», ці Школа цынізму

Пачатак на стар. 1

Неабходныя дакументы пайшлі па чыноўных інстанцыях, і неўзабаве, 12 лютага 2002 года, Камітэт па архітэктуры, горадабудаўніцтву і тэрытарыяльнаму планаванню Мінскага абласнога выканкама даў сваё «ўзгадненне», пра што **старшыня камітэта Е.М.Кавалеўскі** паведаміў ТДА «Вівеўрабуд» і праектную арганізацыю аблвыканкама. Тут, дарэчы, удакладняецца месца «жылога раёна»:

**«Рассмотрев эскизное решение генплана жилого поселка «Солнечный» ОДО «Вивеврострой» на землях ...Минской птицефабрики, на участке, расположенном между строящимся выставочным комплексом «ВЦ «Аквабел» и урочищем «Куропаты», МКАД и автодорогой Колодищи – Заславль... общей площадью 60,6 га... объект №1-2002, разработанный МОУП «Проектно-производственное архитектурно-планировочное бюро», комитет по архитектуре, градостроительству и территориальному планированию Миноблисполклма согласовывает его для сбора исходных данных и дальнейшей разработки проекта».**




ветственностью "Вигеврострой" для строительства жилого района коттеджной застройки

СОГЛАСОВАЛИ:

Зав.отделом по земельным ресурсам и землеустройству
«13» августа 200 г. А.А.Писарик (подпись) (ф.и.о.)

Архитектор района
«14» 08 200 г. Я.Е.Василечко (подпись) (ф.и.о.)

Директор учхоза
«13» 08 200 г. Г.И.Де... (подпись) (ф.и.о.)

Директор ОДО "Вигеврострой"
«13» 08 200 г. В.Н.Осипович (подпись) (ф.и.о.)

Председатель ... сельисполкома
«14» 08 200 г. П.А.Лапшин (подпись) (ф.и.о.)

Начальник ... природных ресурсов и охраны окружающей среды
«14» 08 200 г. С.А.Дунай (подпись) (ф.и.о.)

Чытаючы дакументы, створаныя спецыялістамі, немагчыма даць веры, што іх пісалі нашыя сучаснікі, людзі, якія ведаюць, што Курапаты – месца пакутаў, што тут у гады сталінскага тэрору пакладзены ў магілы стрэлам у патыліцу дзесяткі тысяч невінаватых людзей. Напрыклад, у архітэктурна-планіровачным заданні на распрацоўку праекта пасёлка, у частцы архітэктурна-планіровачных патрабаванняў, ёсць такое паказальнае ў адносінах маральнасці патрабаванне:

**«При разработке проекта учесть следующие требования:**

**1-я очередь строительства:**

**– блокированную плотную застройку одноквартирными жилыми домами по периметру участка со стороны МКАД, ул. Мирошниченко и мемориального парка «Куропаты», с участками до 0,03 га;**

**– коттеджную застройку в пределах территорий, расположенных за блокированной застройкой с участками от 0,1 до 0,15 га, индивидуальными подъездами к группам жилых домов;**

**– индивидуальное проектирование жилых домов с высоким уровнем комфорта, применением высококачественных современных материалов и изделий;**

**– обеспечение выразительности застройки с основных видовых точек: с МКАД, с ул. Мирошниченко, автодороги Колодищи – Заславль, мемориального комплекса «Куропаты».**

Інакш кажучы, аўтары павінны знайсці такі выгляд для катэджаў, каб людзі, якія прыйдуць у Курапаты памаліцца за душы пакутнікаў, убачылі «выразны» цуд, створаны з катэджаў «с высоким уровнем комфорта». Не наадварот, як патрабуе сумленне – «надаць выразнасць мемарыялу «Курапаты», а менавіта з клопатам пра ўладароў прыватнай забудовы, якая па плане аддзелена ад урочышча 50 метрамі пад дарогу і тратуары.

Прадумана наперад не толькі «выразнасць» вобразу. Яшчэ не пачаліся работы, а ўжо пазначана, як вузельчык на памяць, ахова ад пабочных асобаў:

**«Проектом предусмотреть единый стиль ограждений территорий участков блокированной и коттеджной застройки, мероприятия по обеспечению охраны».**

Прыгожая агароджа, зразумела, патрэбная, бо на першую чаргу да будаўніцтва плануецца:

**«2 квартала коттеджнай застройки (58 участкаў), блокированная застройка квартирного типа (93 блока), блоки обслуживания, гостевая автостоянка на 37 машин, гостевая стоянка на 8 машин».**

Жыць у пасёлку «Солнечный» будуць 455 чалавек (1-я чарга, а ўсяго 954), сярэдняя забяспечанасць на чалавека жыллёвым фондам складае 45,5 кв. метраў (г. зн. на сям'ю з 4 чалавек - 180 метраў). Плануецца дашкольная ўстанова на 50 месцаў, школа на 180 вучняў, аптэка, медпункт, пральня, хімчыстка, прадпрыемства бытавога абслугоўвання, цэнтр адпачынку, праваслаўная царква.

Рашэнне аб адняцці зямельнага ўчастка і перадачы яго ў арэнду на 10 гадоў ТДА «ВіВеўрабуд» для будаўніцтва пасёлка «Солнечный» прынята ў жніўні 2002 года. У ім пазначана, што ТДА можа прыступіць да заняцця зямельнага ўчастка пасля вызначэння яго межаў на мясцовасці і заключэння дамовы арэнды. Відаць, вясной «Солнечный» будзе матэрыялізаваны.

Людзі, якія задумалі стварэнне гэтага «жылога раёна», абсалютна пазбаўлены густу ці кіраваліся благімі пачуццямі. Толькі дзеля здзеку можна назваць пасёлак, які будзе суседнічаць з Курапатамі, курортнай назвай «Солнечный». Яна і па сэнсу, і па форме нагэтулькі недарэчная для адведзенага пад забудову ўчастка, што прыдумаць яе маглі ў 1937 годзе, а ў 2003 – гэта ўспрымаецца як кпіны ці хвароба. І аўтобусны прыпынак хутчэй за ўсё будзе адпавядаць назве пасёлка. Па выхадзе з аўтобуса – адны ў Курапаты, іншыя – у «Солнечный».

Ну і нарэшце пра ахоўныя зоны. У «Заключении № 202 Государственной экологической экспертизы проектов» ад 6 чэрвеня мінулага года, падпісанай **старшынем Мінскага абласнога камітэта прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя В.В.Сасноўскім**, клапатліва ацэнена ахоўная зона катэджнага пасёлка «Солнечный»:

**«Согласно представленным материалам минимальное расстояние от бровки земляного полотна дороги до линии жилой застройки составляет 96 метров для дороги Колодищи – Заславль и 145 метров для МКАД. Согласно СНПиП 2.05.02-85 «Автомобильные дороги» расстояние от бровки земляного полотна до линии застройки первой и третьей категории должно быть не менее 200 метров.**

**Учитывая, что МКАД относится к первой категории, следует отнести линию застройки со стороны МКАД на нормативное расстояние и предусмотреть защитную полосу зелёных насаждений шириной 10 метров».**

Пра ахоўную зону мемарыяла Курапаты ў дакументах нават не ўзгадваецца. Гэта не выпадковасць і не кепская памяць чыноўнікаў. Бо такая ахоўная зона наўмысна не прымалася Міністэрствам культуры Беларусі. Таму сёння праектанты «Солнечного» дзейнічаюць фармальна без парушэнняў закона. Няма патрэбнай для мемарыяла ахоўнай зоны ў 300 метраў, няма агароджы, няма рашэнняў пра мемарыялізацыю. Не рабілася і не робіцца нічога. Таму чынавенства прагматычна выкарыстала адмыслова створаны вакуум для вырашэння сваіх задумаў.

Што гэта за Міністэрства культуры, калі зрабіць праект аховы зон аховы Курапатаў мусіла прасіць Беларуская асацыяцыя ахвяр палітычных рэпрэсій, і ён быў распрацаваны спецыялістамі інстытута «Праектрэстаўрацыя» на грамадскіх пачатках. Таму, што гэтыя людзі спачуваюць.

«Солнечный» створаны і існуе ўжо не толькі ў галовах і на паперы. Выдзелены раней участак пад праваслаўную капліцу, якую наіўныя людзі лічылі «курапацкай», павялічваецца пад патрэбы царквы, і пасёлак «Солнечный» стане праваслаўным прыходам. За 50 метраў ад агароджы «Солнечного» пачынаецца лясное ўрочышча Курапаты, якое насельнікам катэджаў можна будзе выкарыстоўваць для адпачынку. Невыпадкова ў адным з дакументаў праслізгнула жаданне называць яго «паркам». Бо адна справа купіць катэдж побач з «паркам», іншая – побач з мемарыялам народных пакутаў.

Гледзячы на аркуш паперы, на якім гурт адказных асоб замацаваў свае аўтографы пячаткамі, можна толькі дзівіцца сукупнаму дружнаму жаданню аддаць зямлю, шчыльна прылеглую да Курапатаў, пад «жылы раён».

Ніводзін з чыноўнікаў не выказаўся супраць, не засумняваўся, не прапанаваў наперад зрабіць мемарыял, а ўжо потым глядзець, як будуць стасавацца з ім катэджы і 3–5-павярховыя будынкі сацыяльнага прызначэння, стаянкі для гасцявых машын, сметнікі, сістэмы каналізацыі.

Усё ўзгоднена ў планах узвядзення 1-й чаргі пасёлка «Солнечный». Апроч аднаго – тут нічога не ўзгаднялася з сумленнем.

**Я.МАТУСЕВІЧ**



Алея Крыжоў пакуты ва ўрочышчы Курапаты нібыта сама просіцца, каб «солнечники» ранкам бегалі тут «трусцой», а ўвечары шпацыравалі «дзеля мацыёну дыхаючы свежым паветрам сасновага лесу

# Канцэпцыя а ля Мураўёў

## Новае – гэта здабытае на сметніку гісторыі старое

Як усе ведаюць, з ініцыятывы ўлады павінна быць высунутая сучасная канцэпцыя гістарычнай адукацыі з адпаведным стварэннем новага набору падручнікаў.

Праца па стварэнні гэтай канцэпцыі праводзіцца, як можна меркаваць, за шчыльна зачыненымі дзвярыма, у звычна недарэчнай таямнічасці. Сціпласць распрацоўшчыкаў, відаць, мае падставай нежаданне крытычных дэбатаў. Працай адным разам паставіць інтэлігенцыю краіны перад фактам ухваленага саматужнага канцэптуальнага твору, чым ашаламляць штодзённа. Бо тое, што становіцца вядомым, падказвае, што за шырмай таямнічасці гадуецца кланаваны царскіх і савецкіх часоў ідэалагічны монстр, які душыў беларускую гістарычную навуку два апошнія стагоддзі.

Па-за абмеркаваннем канцэпцыі засталася не толькі грамадскасць, але і навуковыя колы. У прыватнасці, у Інстытуце гісторыі НАН Беларусі пра новую канцэпцыю даведаліся толькі ўвосень, калі яна нібыта абмяркоўвалася. Пасля ў Магілёўскім універсітэце і вузкім коле невядомых асобаў новую канцэпцыю гістарычнай адукацыі быццам і абмеркавалі і ўхвалілі. Нібыта гэта адбылося летась 31 кастрычніка. Пра гэта, а таксама пра тое, што ўсё адбывалася пад апекай Міністэрства адукацыі, гісторыкі зноў жа ведаюць толькі з пагалосак і цьмяных кароценькіх паведамленняў прэсы.

Вядомым распрацоўшчыкам новай канцэпцыі гістарычнай адукацыі стаў Якаў Іванавіч Трашчанок – пенсіянер, дацэнт кафедры ўсходнеславянскай і расійскай гісторыі Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта імя Аркадзя Куляшова. Як ні дзіўна, Якаў Іванавіч не паспеў абараніць кандыдацкую дысертацыю, невядомыя і яго навуковыя манаграфіі, аднак ён мае спецыфічны погляд на беларускую гісторыю.

Новая канцэпцыя, паводле яе аўтара, павінна будавацца на «аб'ектыўных навуковых абагульненнях» і на «народным волевыяўленні» (на рэферэндумах ці што?). Трэба дадаць, што пры выкладанні гісторыі, згодна з думкамі стваральніка новай канцэпцыі, павінна дамінаваць расейская мова, а яшчэ лепш проста перайсці на карыстанне расейскімі падручнікамі.

**Якаў Трашчанок, дацэнт, аўтар канцэпцыі:**

«Збудаваная на пачатку 1990-х гісторыя Беларусі палягае на этнацэнтрызме. Яна адкрыта нацыяналістычнага кірунку. Гэта гісторыя вельмі міфалагізаваная і таму памылковая. Цалкам не адпавядае гістарычнай праўдзе. Напрыклад там сцвярджаецца, што Вялікае княства Літоўскае – гэта беларуская дзяржава. Як так можа быць, калі беларусы адракліся ад сваёй рэлігіі і здаліся літоўцам? Усе гэтыя Радзівілы і кампанія, усе яны палякі і нал-радыкалы», што дарваліся да ўлады на пачатку 1990-х – «несостоятельна и антинаучна». «Националисты навязали такую концепцию исторического образования, которая вообще ликвидирует белорусскую историю».

Крытыкаваць – справа простая, калі не аргументаваць.

Асаблівае месца ў новай канцэпцыі адводзіцца праваслаўнай царкве. Беларусь разглядаецца як параджэнне ці феномен праваслаўя, а Расія як адзіны гарант выжывання ўсходніх славян. Ад гэтай печы аўтар і пускаецца ў інтэрпрэтацыі асноўных момантаў беларускай гісторыі.



Генерал-губернатар Міхаіл Мураўёў здзяйсняе «брацкую дапамогу» беларусам па праваславізацыі і русіфікацыі. 1863–1864 г.

...жывуць зараз у Польшчы. Наша гісторыя - гэта гісторыя Русі, усходнееўрапейскага хрысціянства, праваслаўнай зоны, толькі так яе трэба вывучаць і разглядаць. Праваслаўе – гэта матрыца, у якой развіваўся наш нацыянальны рэгіён»

*Пракаментаваць некаторыя тэзы гэтакай канцэпцыі гістарычнай адукацыі мы папрасілі кандыдата гістарычных навук Генадзя Сагановіча.*

**Генадзь Сагановіч, гісторык:**

Кніжка, якая ўтрымлівае асноўныя пастулаты новай канцэпцыі «К вопросу об общей концепции исторического образования в Республике Беларусь» і якую толькі мне і давялося бачыць, невялічкая, але вельмі агрэсіўная. Праз усю брашуру чырвонай ніткай праходзіць крытыка «адраджэнцаў». Тое, што падаецца па-беларуску, заўсёды гучыць вельмі здзекліва. Безспадстаўна крытыкуецца канцэпцыя беларускіх гісторыкаў, якіх Якаў Трашчанок называе «нацыянал-радыкаламі», ці «нацыяналістамі». Ён усё падае так, што сённяшняя дзяржаўная палітыка Беларусі павінна выявіцца ў стварэнні дзяржаўнай канцэпцыі гістарычнай адукацыі, бо канцэпцыя, якую навязалі, як ён піша, «нацыя-Трашчанок гэта робіць вельмі нячыста, падмяняе і выкрыўляе паняцці, падае апанентаў, гэтых самых «нацыяналістаў», у вобразе нейкіх дурняў.

Напачатку ён падае дзве пазіцыі, якія, на яго думку, адразу паказваюць «несостоятельность» нацыянальнай канцэпцыі. Першае – тое, што «нацыяналісты» ўводзяць гісторыю Беларусі і Беларусь у еўрапейскі кантэкст. Яны цягнуць Беларусь да Еўропы, пад якой разумеюць «исключительно западную Европу». Гэта поўная лухта. Ніхто ніколі як раз з Заходняй Еўропай не звязваў Беларусь, не ставіў ніякага знаку тоеснасці. Аднак ён спрачаецца з гэтым тэзісам, які сам жа і прыдумаў. Піша, што «Беларусь не можа ўвогуле да захаду ніяк адносіцца таму, што народжаная ў лоне праваслаўнай царквы і звязаная з усходне-славянскай праваслаўнай цывілізацыяй».

Другую хібную пазіцыю ён таксама прыпісвае нацыяналістам. Гэта тэзіс, што «усю гістарычную адукацыю зводзяць і трактуюць на вузканацыянальнай гісторыі, гісторыі Беларусі». Ён лічыць, што Беларусь вельмі маладая дзяржава, і ў ёй не можа нацыянальная гісторыя мець такую ўдзельную вагу, як у «старых дзяржавах».

**Якаў Трашчанок, дацэнт, аўтар канцэпцыі:**

«Наша гісторыя – гэта гісторыя Русі. Праваслаўе – гэта аснова культуры. Не будзе праваслаўя, не будзе і Беларусі. Усе неправаслаўныя, якія называлі сябе беларусамі, пасля Другой сусветнай вайны эміґравалі ў Польшчу і там здрадзілі ідэям праваслаўя, акаталічыліся. Якія яны беларусы? А ў сродках масавай інфармацыі дагэтуль ідзе прапаганда пра розных там нашчадкаў ды іншых, якія быццам бы беларусы. А самі яны пераехалі ў Польшчу і адракліся.

**Генадзь Сагановіч, гісторык:**

Праваслаўе – асноўны ідэалагічны пастулат новай канцэпцыі. Якаў Трашчанок цвердзіць, што Вялікае княства Літоўскае і Рэч Паспалітая ніякім чынам не могуць звязвацца з нацыянальнай беларускай гісторыяй, таму што гэта дзяржавы каталіцкія, і яны праводзілі дыскрымінацыйную палітыку ў адносінах да беларусаў. Больш таго, шляхта таксама не мае ніякіх адносінаў да нацыянальнай гісторыі Беларусі, таму што яна здрадзіла праваслаўю, а хто не здрадзіў праваслаўю, вымушаны быў ісці на Усход да цара маскоўскага прасіць паратунку... Змешваючы ўсё такім чынам, аўтар канцэпцыі заклікае ўвесці праваслаўе як факультатыў у школах. Вось такі прадказальны скачок ад гісторыі ў цяперашнія палітычныя памкненні царквы.

Яшчэ адно, што звязанае галоўнай тэзай пра праваслаўе. Трашчанок крайне негатыўна ацэньвае любыя народныя паўстанні, інтэрпрэтуе іх яшчэ горш, чым было ў савецкія часы. Піша, што пара скончыць з «националистическими мифами о восстаниях». Паўстанне 1794, 1831, 1863 гадоў, на яго думку, былі польскімі інтрыгамі, бо яны былі супраць царскай Расіі.

**Якаў Трашчанок, дацэнт, аўтар канцэпцыі:**

«Да 1917 г. беларускай дзяржавы не існавала ўвогуле. Беларусы як народ ніколі не ўваходзілі ў склад дзяржавы, дзе б яны былі тытульнай нацыяй. Напачатку беларускія землі знаходзіліся пад уплывам рускіх, затым былі захопленыя літоўцамі, затым палякамі. Толькі на пачатку 20 стагоддзя на карце з'явілася краіна з назвай Беларусь – БССР. З таго часу і існуе беларуская дзяржава. А раней вы нідзе такой краіны не знойдзеце».

**Генадзь Сагановіч, гісторык:**

Трашчанок таксама прапануе сваю структуру гістарычнай адукацыі. Ён лічыць, што гістарычная адукацыя ў Беларусі павінна будавацца на трох курсах: першы курс – нацыянальная гісторыя, другі – рэгіянальная, трэці – усеагульная. Але парадокс у тым, што галоўнай з'яўляецца менавіта рэгіянальная гісторыя, а нацыянальная – гэта кароценькі курс гісторыі беларускіх праваслаўных земляў. Рэгіянальная – гэта гісторыя, як ён піша, «восточных славян, России и СССР» – ільвіная доля ўсёй нагрузкі на вучняў. Усеагульная – сціслая гісторыя Захаду.

Як бачым, нацыянальная гісторыя паўстае толькі як гісторыя праваслаўных земляў і, напэўна, найвузейшая гісторыя самага апошняга часу. Гісторыя ВКЛ і Рэчы Паспалітай павінна вывучацца, паводле Трашчонка, у курсе ўсеагульнай гісторыі – не проста адмежавана ад Беларусі, але як чужая. І такую схему плануецца прыкласці як для школьнай адукацыі, гэтак і для вышэйшай.

У самым пачатку сваёй навуковай працы аўтар хваліць адукацыю савецкага тыпу, цвердзіць, што савецкі студэнт у сваіх гістарычных ведах пераўзыходзіў сваіх равеснікаў з Захаду, і што гісторыя КПСС давала выдатныя веды па найноўшай гісторыі. Завяршае свой твор Трашчанок у катэгарычнай танальнасці: чым хутчэй улады заменяць выдуманую нацыяналістамі канцэпцыю на дзяржаўную, тым лепей для Беларусі.

Стыль напісання надзвычай грубы: зняважлівая крытыка, вулічная публіцыстыка, палемізаваць з ім проста неяк няёмка. Гісторыкам, на маю думку, падпарадкавацца гэтай канцэпцыі будзе немагчыма, але тое, што настаўнікі і школьнікі будуць змушаны цярпець, відавочна.

*

Цяжка ўявіць, што знойдзецца хоць адзін аўтарытэтны навуковец, які на падставе высунутай дацэнтам Я.І.Трашчанком, мякка кажучы, дзіўнаватай канцэпцыі возьмецца ставіць беларускую гісторыю з ног на галаву. Аднак усё магчыма на гэтым свеце. Магчыма, што калектыў аднадумцаў выканае такую працу, бо падрыхтоўка грамадскай думкі вялася некалькі гадоў. Праўда, час актыўнай прапаганды панславянізму прайшоў, і цалкам магчыма, што бачанне Беларусі, уласцівае часам Мураўёва і яго прыхільнікам, не будзе мець аднаўлення і прапаганды, бо разбурае падмуркі незалежнасці вышэйшай улады краіны ад Расіі.

Тым не менш, заказ існаваў, растварэнне Беларусі ў Расійскай Федэрацыі абмяркоўвалася, расійскі прэзідэнт нават агучыў яго. Так што «навуковае дасягненне» Я.Трашчонка можа быць запатрабаваным. А нашае грамадства ніяк не рэагуе. Пакуль гром не ўдарыць...

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

# Непатрэбныя дзеці

***Дарослыя прыдумалі ім сінонімы – «цяжкія падлеткі», дзеці, «якім патрэбны асаблівы педагагічны клопат». А яны проста дзеці, непатрэбныя сваім бацькам***

**Сумная статыстыка**

У 2002 годзе супрацоўнікамі інспекцыі па справах непаўналетніх (ІСН) Цэнтральнага РУУС Мінска было складзена 160 адміністрацыйных пратаколаў за невыкананне бацькамі абавязкаў па выхаванні дзяцей. Столькі ж пратаколаў складзена на падлеткаў, якія знаходзіліся ў грамадскіх месцах у нецвярозым стане. За рэалізацыю спіртовых напояў непаўналетнім да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнута 97 гандляроў. Дакументальна пацверджана, што першую чарку дзецям прапаноўваюць дарослыя: складзена 89 пратаколаў за спойванне няпоўнагадовых.

Першага студзеня 2002 года на ўліку ў ІСН было 169 дзяцей, а 31 снежня ўжо 220. За год знялі з уліку 146 няпоўнагадовых, а паставілі – 197. У мінулым годзе ў Цэнтральным раёне сталіцы няпоўнагадовымі было здзейснена 80 злачынстваў.

**Усё гора ад абыякавасці**

Зразумела, што ў дзіцячых бедах павінны дарослыя. Бацька п'е, маці не працуе, дзіця сядзіць галоднае. Якое выйсце? Збіцца ў зграю такіх жа абяздоленых падлеткаў і ісці на злачынства. Кража аўтамагнітол лічыцца "фірмовым" злачынствам падлеткаў. Скраў, прадаў, нешта купіў. Але ўсё часцей падлеткі разам з дарослымі ўдзельнічаюць у кватэрных крадзяжах, разбойных нападах. У мінулым годзе толькі супрацоўнікамі інспекцыі па справах няпоўнагадовых было раскрыта 15 крымінальных злачынстваў і два, звязаных з распаўсюджваннем наркотыкаў.

Супрацоўнікі міліцыі выяўляюць нешчаслівыя сем`і і праводзяць прафілактычную работу. Але калі чалавек адпіў розум, то перавыхаваць яго немагчыма. Апошняя кара для такіх бацькоў – гэта падрыхтоўка дакументаў на пазбаўленне бацькоўскіх правоў. "Для дзіцяці адзінае выйсце з змрочнага кола – апынуцца ў дзіцячым інтэрнаце. Мы збіраем дакументы на пазбаўленне бацькоўскіх правоў, але яны толькі паперы без паказанняў сведак, – расказвае старшы інспектар ІСН Цэнтральнага раёна Мінска Алег Кастырка. – Першыя сведкі ў такіх справах – суседзі. Найчасцей яны абыякавыя да лёсу чужога дзіцяці. Так нам і кажуць: "Мне няма ніякай справы да таго, што там адбываецца. Мой сын не такі, а добра выхаваны. І ўвогулле, я не хачу звязвацца ні з вамі, ні з суседзямі". У нашай практыцы ўжо не раз было, калі абыякавасць абарочвалася супраць гэтых жа людзей. З-за адсутнасці паказанняў сведак мы не маглі адправіць «невыхаванага» ў інтэрнат, а ён тым часам уцягнуў у сваю кампанію "добра выхаванага". Вось тады да нас бягуць такія бацькі і лементуюць, што міліцыя дрэнна працуе. А дзе яны былі, калі мы прасілі ў іх дапамогі».

На жаль, клопат дзяржавы бывае часам нязграбны. Напрыклад, адкрыўся новы дзіцячы інтэрнат у Ждановічах. Там добрыя бытавыя ўмовы. Але атрымліваецца, што разам жывуць дзеці з трагічным лёсам – тыя, у каго памерлі бацькі, і "цяжкія" дзеці – тыя, што ўжо пакаштавалі гарэлку, не раз былі ў полі зроку міліцыі. Зразумела, што ў гэтай сітуацыі немагчыма гаварыць аб маральным камфорце дзяцей. Менавіта "цяжкія" дзеці маюць лідэрскія якасці і таму будуць прымушаць іншых дзяцей жыць па іх правілах.

**Кампутар: сябра ці вораг?**

Свой вольны час шмат сучасных дзяцей бавіць за кампутарам. У кагосьці такая цацка ёсць дома, але большасць ідзе ў кампутарныя клубы. "На тэрыторыі нашага раёна дзейнічае сем кампутарных клубаў, – расказвае начальнік інспекцыі па справах непоўнагадовых Алег Свідзінскі. – Ніто не супраць, каб дзеці былі з кампутарам на "ты". Але, на жаль, ёсць шмат праблем. Можа з пункту гледжання міліцыянта і не важна, якія там санітарна-гігіенічныя ўмовы. А нам можна перадыхнуць: падлеткі сядзяць за кампутарамі, значыць, на вуліцах спакайней. Але ж парушэнне санітарна-гігіенічных норм прыводзіць да цяжкіх хвароб. І тут быць абыякавым немагчыма. Праводзячы рэйды, мы высвятляем, што дзеці гуляюць пераважна ў вельмі агрэсіўныя "забаўкі". У асобных клубах падлеткі спакойна наведвалі парна-сайты.



Не скажу, што ўсе клубы дрэнныя. Напрыклад, у клуб "О'кей", што месціцца на вуліцы Інтэрнацыянальнай? бацькі могуць смела адпраўляць сваіх дзяцей. Там дырэктар сочыць і за "рэпертуарам"? і нават а дзевятай гадзіне вечара нагадвае падлеткам, што яны павінны ісці дадому. У той жа час клубы на вуліцы Заслаўскай і каля кінатэатра "Масква" маюць вельмі дрэнную рэпутацыю. Менавіта апошні быў заўважаны ў прыхільнасці да дэманстрацыі на кампакт-дысках парнафільмаў".

**Мараль**

Колькі б не прымалася дзяржаўных праграм у падтрымку дзяцей і дзяцінства, ні клапатлівы чыноўнік, ні добры настаўнік, ні сумленны міліцыянт не заменяць дзецям бацькоўскай любові. А пакуль нярэдка маці ў кабінеце начальніка ІСН кажа: "Я яго кармлю, апранаю, што яшчэ трэба?" Трэба любіць. Не трэба ператвараць дзіця ў сродак шантажу. Не трэба, каб дарослыя – бацькі, настаўнікі, проста людзі – на вуліцы, у аўтобусе зрывалі на дзецях зло за сваё няўдалае жыццё. Трэба, каб усе памяталі, што сённяшнія няшчасныя дзеці хутка падрастуць і адкажуць нам адпаведнай нелюбоўю. Прыдзецца атрымаць назад сваю чэрствасць.

**Аксана ЯНОЎСКАЯ**

# Чужыя ва ўласнай краіне

***Хрушчоўская «адліга» і яе ўплыў на стан беларускай мовы, 1953-1965 гады***

Першыя гады кіравання Мікіты Хрушчова былі названыя пазней хрушчоўскай «адлігай». У гэты час пачаўся працэс пасмяротнай рэабілітацыі дзеячаў літаратуры і мастацтва, носьбітаў беларускай мовы, якія загінулі ў часы сталінскага тэрору.

СССР і нацыянальныя рэспублікі паступова пачалі паварот да жыцця, заснаванага на прынцыпах пэўнага дэмакратызму. Аднак таталітарныя сілы спынілі гэты працэс, таму ў Беларусі зноў набірае моц русіфікацыя.

Гэта нават відаць па партыйных прамовах. Калі ў 1954 г. Патолічаў у справаздачным дакладзе XXI з'езду ЦК КПБ хоць зрэдку звяртае ўвагу на стан беларускай мовы – «за апошні час выданы работы па беларускай мове і літаратуры», то ні ў яго справаздачных дакладах XXII і XXV з'ездам КПБ, ні ў справаздачным дакладзе Машэрава XXVI з'езду (1966) няма ні аднаго слова пра беларускую мову.

Катастрафічна звужаецца адукацыйная сфера беларускай мовы. Ніякіх пастаноў, загадаў на гэты конт амаль няма. Відаць, у гэты час пачало дзейнічаць тэлефоннае права. Можна адзначыць хіба загад Міністэрства асветы БССР «Аб скарачэнні колькасці экзаменаў у школах Беларускай ССР», які быў прыняты ў 1954 г. Да гэтага года ў беларускіх школах выпускнікі здавалі 11 экзаменаў, у тым ліку і беларускую мову. Па новым загадзе з мэтай зніжэння экзаменацыйнай нагрузкі пакідалася восем экзаменаў, выводзіўся і іспыт па беларускай мове. Вывучэнне беларускай мовы як прадмета ў рускай школе рабілася фармальнай справай. Зніжалася колькасць гадзін на вывучэнне беларускай мовы і адпаведна павялічвалася на вывучэнне рускай мовы ў школьных праграмах. У 1957/58 навучальным годзе ва ўсіх класах сярэдніх беларускіх школ на рускую мову і літаратуру адводзілася 1.170 гадзін, а на беларускую – 1740. У рускіх школах адпаведна 2.232 і 684. Такім чынам ствараліся ў соцыуме абыякавыя адносіны да беларускай мовы як прадмета, як сродку зносінаў, як крыніцы інфармацыі.

Пагэтаму прыняты 24 снежня 1958 г. Закон «Аб умацаванні сувязі з жыццём і далейшым развіцці сістэмы народнай адукацыі ў СССР» і адпаведны яму Закон БССР ад 1959 г., трапілі на прыдатную глебу. Паводле арт. 11 Закона, у БССР «вывучэнне рускай мовы ў школах з беларускай мовай навучання, а таксама вывучэнне беларускай мовы ў школах з рускай або іншай мовай навучання праводзіцца па жаданню вучняў і іх бацькоў».

Міністр асветы І.М.Ільюшын у дакладзе на І сесіі Вярхоўнага Савета БССР 1959 г., раскрыўшы сутнасць права выбару моў, дае каментарый: «Зразумела, што ў школах з беларускай або іншай мовай навучання на падставе добраахвотнасці вучні будуць вывучаць рускую мову... Таму трэба ўсяляк заахвочваць вывучэнне беларускай мовы і ў школах з рускай мовай навучання». Пра фармальнасць заахвочвання да выбару беларускай мовы з боку афіцыйных структураў сведчаць і такія факты: ні ў дакладзе міністра асветы Ільюшына «Аб выкананні Закону «Аб умацаванні сувязі школы з жыццём ...» на V сесіі ВС БССР у чэрвені 1961 г., ні ў садакладзе старшыні камісіі ВС па народнай асвеце і культурна-асветніцкай рабоце паэта Пятра Глебкі на гэтай жа сесіі не прагучала ні аднаго слова пра моўнае пытанне. З усіх 13 выступоўцаў у спрэчках толькі адзін дэпутат Л.Г.Юрак (Фаніпаль) адзначыў, што «ў цяжкім стане знаходзіцца...выкладанне беларускай літаратуры і мовы. Мала даведнікаў па літаратуры, зусім няма падручнікаў па мове для 9–11 кл.».

К канцу 1960-х гадоў беларускую мову не вывучалі 1/3 вучняў. Пачалі масава зачыняцца беларускія школы, асабліва ў гарадах і мястэчках. Калі ў 1955/56 навучальным годзе на беларускай мове вучылася ў Беларусі 78,5% школьнікаў, то ў 1960/61 – 70,8%, а ў 1970/71г. – 51,1%.

1960-я гады сталі спрыяльнымі для замацавання беларуска-рускага двухмоўя, а таксама для пашырэння змешанай мовы, так званай «трасянкі». Гэтаму спрыяе і ўзбуйненне гарадоў за кошт жыхароў вёскі, якія, трапіўшы ў горад, адмаўляліся ад сваёй мовы, выбіраючы мову «гарадскую». Адной з прычын такой з'явы быў міф аб «мужыцкасці» беларускай мовы, створаны яшчэ ў сярэдзіне XIX ст., калі ўтварылася новая беларуская літаратурная мова на аснове народнай. У 1960-х гадах гэты міф быў рэанімаваны і перанесены на новую глебу. Паколькі бальшыня носьбітаў мовы жыла на вёсцы, аформленай у калгасы, а калгаснікі былі беспашпартныя, бесправныя, амаль што рабы дзяржавы, дык у выніку беларуская мова стала кпліва называцца «колхозная», што было сінонімам «рабскай» прыналежнасці. Каб не быць «колхозниками», дзеці калгаснікаў саромеліся карыстацца мовай сваіх бацькоў.

Адбываецца дэфармацыя нацыянальнай свядомасці беларусаў на фоне падзення прэстыжу беларускай мовы на ўсіх узроўнях. У перыяд з 1959 па 1970 г. удзельная вага беларусаў з роднай беларускай мовай зменшылася з 93,1% да 91,5%. З'яўляюцца праявы нігілістычных поглядаў беларусаў, якія звязаныя з тым, што руская мова з'яўляецца дзяржаўнай мовай не толькі ў БССР, але і ўсяго СССР, што гэта мова класікаў марксізму-ленінізму, што гэта «мова вялікага рускага народа», з гэтай мовай найлягчэй атрымаць высокаўзроўневую адукацыю не толькі ў Беларусі, але і ўсюду ў СССР, на гэтай мове выходзяць навінкі навукова-тэхнічнай, мастацкай літаратуры.

Гэтыя негатыўныя працэсы ў адносінах да беларускай мовы замацоўваюцца змяншэннем колькасці друкаванай прадукцыі на беларускай мове. Так, у 1950г. доля беларускіх кніг, часопісаў, газет складала адпаведна 85, 74, 85% , а ў 1965 г. адпаведна – 31, 75, 57%.

Ужо ў 1956 г. Якуб Колас адчуў небяспеку, што навісла над роднай мовай, і 25 мая напісаў ліст у Бюро ЦК КПБ, які аднёс толькі 13 жніўня, за некалькі гадзін да сваёй смерці.

Працяг на стар. 10

# Краіна талераў

## Ці здолее «заяц» пазбегнуць кіпцюроў «арла»?

Пасля таго, як з ініцыятывы расійскага боку працэс стварэння «саюзнай» дзяржавы ачысціўся ад «славянскіх» упрыгожанняў і ўвайшоў у рэчышча прагматычных інтарэсаў, Уладзімір Пуцін падчас свайго візіту ў Мінск заявіў: « **Некалькі спазняецца план сумесных дзеянняў па ўвядзенні адзінай грашовай адзінкі саюзнай дзяржавы. Тут трэба паскорыць работу, інакш «пакет» можа затармазіцца ці разваліцца».**



**Нацыянальны банк Беларусі – апірышча незалежнасці ці сховішча старых грошай?**




Відочна, што грошы – галоўная інтрыга, звязаная з аб'яднаннем дзвюх дзяржаваў. Чые грошы – таго і ўлада, таго і дзяржава.

### Хто болей заплаціць?

Спецыялісты лічаць, што пераход будзе больш балючы для Беларусі, чым для Расіі. Бо для захавання цяперашніх умоваў існавання эканомікі Беларусі ёй патрэбна пастаянная «накачка» грашыма, якая акрэсліваецца праз інфляцыю 30% на год. Пры пераходзе да расійскага тэмпу роста цэнаў (12–15% на год) беларускія прадпрыемствы адчуюць дэфіцыт грошай і адпаведны шок. Пры адсутнасці звычнай падпіткі шмат якія беларускія прадпрыемствы спыняцца ці перастануць выплачваць заробак працаўнікам. Барацьбы з інфляцыяй без ахвяраў не бывае – беларускім бюджэтнікам і дзяржаўнамц сектару прыйдзецца пацярпець.

**Жывем лепш**

Аднак, нягледзячы на шырокую крытыку «эканамічнай мадэлі Лукашэнкі», беларусы жывуць не горш за расейцаў. Грашовыя даходы на душу насельніцтва ў Беларусі вышэй на 23%, чым у Бранскай вобласці, у 1,9 раза болей, чым у Іванаўскай вобласці, у 1,5 раза болей чым ва Уладзімірскай вобласці, на 24,4 % болей, чым у Валгаградскай вобласці, хоць ніжэй на 7,3%, чым у Смаленскай вобласці, і ў 5,5 разы ніжэй, чым у Маскве (але бальшыня масквічоў жыве гэтаксама, як і простыя беларусы, толькі невялічкая частка мае звышдаходы). Па будаўніцтву жылля Беларусь саступае толькі Маскве.

**Цьмяныя падставы**

Завостраная ўвага да пераходу на адзіную валюту не мае пад сабой важкай падставы. Гэта – ветлівы сінонім для палітычных праблемаў аб'яднання. Бо сёння і банкі, і прадпрыемствы Беларусі і Расіі могуць купляць рублі і лічыць іх адзінай валютай. Ніякай забароны на гэта няма. Але пераход на адзіны рубель прадугледжвае больш значныя рэчы – абмежаванні эмісійных правоў, найперш для Мінска.

Беларусь і Расія разумеюць пад адзіным эмісійным цэнтрам не адно і тое ж. Адзін з расійскіх планаў пераходу на агульную валюту мяркуе, што адзіным эмісійным цэнтрам стане Цэнтрабанк Расійскай Федэрацыі. Тады Нацбанку Беларусі дадуць беспрацэнтны і бестэрміновы крэдыт, які падпадае звароту, толькі ў тым выпадку, калі Беларусь вернецца да сваёй нацыянальнай валюты. Пасля гэтага Нацбанк Беларусі будзе купляць рублі ў расійскага Цэнтрабанка на тых жа правах, што і камерцыйныя банкі. Беларускі бок прапануе альтэрнатыўныя варыянты. Першы прадугледжвае стварэнне валютнага савета, у які ўвойдуць прадстаўнікі цэнтральных банкаў абедзвюх краінаў, прычым рашэнне аб эмісіі будзе прымацца шляхам галасавання. Згодна з другім альтэрнатыўным планам, эмісія рубля можа праводзіцца незалежна двума Цэнтрабанкамі прапарцыянальна аб'ёмам ВУП Расіі і Беларусі.

**Чаму расейскі «арол»?**

Расійскі бок лічыць, што ў друкаванні новых купюраў пры пераходзе на адзіны рубель няма неабходнасці, бо роль адзінай валюты будзе выконваць расійскі рубель. Увядзенне купюраў новага ўзору можа адбывацца толькі як нейкі сімвалічны акт аб'яднання дзвюх дзяржаваў. Чаму беларуская ўлада пагаджаецца карыстацца грашыма з сімволікай расійскай дзяржавы як уласнымі грашыма – зразумець немагчыма.

Візіт Пуціна відавочна пазначыў змякчэнне ягонай прапановы аб пасуб'ектным уваходзе шасці абласцей Беларусі ў склад РФ, якая выклікала палітычны канфлікт. Адна з прычынаў «адступлення» простая: Расія ўступае ў двухгадовую выбарчую кампанію. Інтэграцыя з Беларуссю будзе адным з козыраў каманды, якая стаіць пры ўладзе. Адначасна Крэмль пазбаўляе левую апазіцыю магчымасці скарыстаць «беларускую карту», што без сумніву мела б месца, калі б працягваўся завязаны летась канфлікт Пуціна з Лукашэнкам.

**Эканамічныя путы**

У апошнія два гады Масква высунула на першы план эканамічную інтэграцыю. Гаворка вядзецца аб прыватызацыі беларускіх прадпрыемстваў з удзелам расійскага капіталу і аб уніфікацыі заканадаўства. Галоўным элементам новай стратэгіі Расіі ў адносінах да Мінска стала аб'яднанне грашовых сістэм. Выпушчана ў свет інфармацыя, што Масква гатовая панізіць кошт газу пры ўмове згоды беларускага боку на аб'яднанне грашовых сістэмаў на расійскіх умовах.

Іншымі словамі, Расія намацала галоўнае звяно інтэграцыі з Беларуссю, і з яго дапамогай жадае атрымаць сабе ўвесь ланцуг. Стратэгія нагэтулькі празрыстая, што зразумелая нават дзецям. Пераход на расійскі рубель пазбаўляе Беларусь рэальнага кантролю над сваёй фінансавай сістэмай, і такім чынам, над эканомікай наогул. Беларускі суверэнітэт робіцца недарэчным сімвалам, а далучэнне Беларусі да Расіі будзе незваротным. Тады і двухгаловы арол на агульнай (расейскай) валюце шчыра засведчыць вяртанне імперскіх межаў, ва ўсялякім разе для Беларусі.

У гэтым кантэксце некаторыя эксперты дапускаюць, што Расія можа пагадзіцца на існаванне двух эмісійных цэнтраў, абмяжоўваючы свабоду дзеянняў Беларусі квотамі на эмісію. Існуе, канечне, рызыка, што Мінск паспрабуе выйсці з-пад кантролю і за расійскія грошы будзе працягваць пабудову сваёй уласнай эканамічнай мадэлі. Але калі ў выпадку такога рашэння ўдасца далучыць Беларусь, то рызыка сябе апраўдае. А потым можна ўсё мяняць у той бок, які будзе карысны Расіі.

Усё гэта сведчыць, што і цяпер, і ў бліжэйшы час пытанне аб пераходзе на расійскі рубель ператворыцца ў галоўнае поле барацьбы за незалежнасць Беларусі, яе далейшае існаванне на палітычнай карце свету.

**Тым не менш...**

З другога паўгоддзя бягучага года ў рэспубліцы, як паведаміў старшыня Нацбанка Беларусі Пётр Пракаповіч, уводзяцца ў абарот безнаяўныя расійскія рублі. А з 1 студзеня наступнага года беларускі «заяц» будзе жорстка прывязаны да расійскага «арла». Гэта неаспрэчны першы крок ў паэтапным працэсе пераходу на адзіную валюту (расійскі рубель). На, думку Пракаповіча безнаяўны расійскі рубель у Беларусі створыць роўныя ўмовы для суб'ектаў гаспадарання абедзвюх краінаў і паспрыяе стварэнню адзінай эканамічнай прасторы. Аднак пытанне адзінага эмісійнага цэнтра пакуль застаецца нявырашаным. Пракаповіч лічыць, што Нацбанк Беларусі павінен мець права эмісіі. Дэбаты на гэтую тэму адбудуцца ў лютым.

З іншага боку, такі рашучы пераход на карыстанне замежнай валютай, якая цалкам залежыць ад нафтавай кан'юнктуры, можа адгукнуцца эканамічнымі ўзрушэннямі ў выпадку падзення цэнаў на нафту. Для Беларусі – надта значнымі. Да таго ж пераход на расійскі рубель не зменшыць карыстанне сярод народа як больш надзейным эквівалентам даляра ці еўра. Што выйграе краіна, атрымаўшы «арла» за незалежнасць, зразумець няпроста.

Найбольш інтрыгуе паведамленне Петра Пракаповіча, што пасля пераходу на расійскі рубель беларускія наяўныя «зайцы» не будуць знішчаныя. **«Хіба добры гаспадар будзе іх знішчаць?** – сказаў Пракаповіч. – **У нас дастаткова сховішчаў, дзе іх можна трымаць».**

Такое выказванне з вуснаў галоўнага банкіра краіны адразу стварае гронку загадак. Ці спадар П. Пракаповіч пажартаваў, каб пасалодзіць горкую таблетку? Ці бюджэт выдзеліць сродкі на ахову непатрэбнай наяўнасці? Ці «зайцу» дадуць адпачыць? Ці іх наогул не пакладуць у сховішчы?

**По матэрыялах прэсы**

## Параўнанні

### Паўмільярды жабракоў

Напрыканцы 2002 года колькасць беспрацоўных у свеце склала 180 мільёнаў (6,5% ад агульнай колькасці працаздольнага насельніцтва планеты). Пра гэта паведамляе даклад Міжнароднай арганізацыі працы ААН (МАП).

Колькасць людзей, якія зарабляюць меней 1 даляра на дзень, дасягнула на канец 2002 года 550 мільёнаў чалавек. Між тым з-за прыросту насельніцтва на працягу бліжэйшых 10 гадоў на рынак рабочай сілы прыйдуць яшчэ 500 мільёнаў. Адпаведна з улікам ужо зафіксаванага беспрацоўя перад краінамі свету стаіць задача стварыць каля 1 мільярда новых рабочых месцаў. Як гэта зрабіць, пакуль ніхто не ведае.

Пасля тэрарыстычных актаў 11 верасня колькасць занятых толькі ў турызме і авіякампаніях скарацілася на 10,5 мільёнаў чалавек. У ЗША ўзровень беспрацоўя склаў 5,6%, у Канадзе – 7,6%, у краінах ЕС – таксама 7,6. Узровень беспрацозя ў краінах Азіі і Блізкага Усходу цяжка акрэсліць, бо там няма практыкі выплаты дапамогі беспрацоўным.

Па разліках МАП, да 2010 года болей за 60% працоўных рэсурсаў Зямлі будзе засяроджана ў Азіі. Пры гэтым на Кітай будзе прыпадаць 25% працоўнага насельніцтва планеты. Роля Еўропы і сённяшніх развітых краінаў значна панізіцца. Калі не ўдасца стварыць неабходны мільярд новых рабочых месцаў усе сацыяльныя праблемы абвострацца і будуць пагражаць буйнымі канфліктамі, паколькі ўтрымаць мільярд жабракоў і беспрацоўных у межах сацыяльнага паслухмянства будзе цяжка.

### Хатняя адукацыя ў ЗША

Да пачатку 1980-х гадоў хатняя адукацыя ў ЗША знаходзілася па-за законам і дазвалялася толькі для цяжка хворых дзяцей. На пачатку 1980-х гадоў сітуацыя пачала змяняцца - прыхільнікі некаторых хрысціянскіх канфесій, абураныя тым, што ў школьных праграмах знікла рэлігійная кампанента, пачалі вучыць дзяцей дома.

Цяпер штаты ЗША па-рознаму падыходзяць да хатняй адукацыі. У некаторых дастаткова паінфармаваць мясцовыя органы асветы аб такім жаданні бацькоў. У іншых штатах бацькі, якія жадаюць вучыць дзяцей дома, абавязаны здаць асаблівыя тэсты, якія дазваляюць праверыць іхны ўзровень педагагічнай кваліфікацыі. Цікава, што ўзровень дабрабыту бацькоў не аказвае ўплыву на іх выбар сістэмы хатняй адукацыі. Болей за тое, у 28% выпадкаў, калі дзіця атрымоўвае хатнюю адукацыю, у сям'і працуюць і бацька, і маці. Па ацэнках Міністэрства адукацыі ЗША, ў 1984 годзе прыкладна 50 тысяч амерыканскіх дзяцей вучыліся дома. У 1988 годзе іх колькасць павялічылася да 300 тысяч. У 1993 годзе хатняя адукацыя стала нормай на ўсёй тэрыторыі ЗША. Па афіцыйных даных, у 1999 годзе колькасць дзяцей, якія атрымоўваюць адукацыю ў хатніх умовах, узрасла да 850 тысяч, хоць некаторые даследчыкі лічаць, што ў рэальнасці колькасць такіх дзяцей можа дасягаць 2 мільёнаў, бо не ва ўсіх штатах ЗША патрабуецца абавязковае ўведамленне органаў асветы аб тым, што дзіця атрымоўвае адукацыю дома. Па ацэнках Асацыяцыі абароны хатніх школ, штогод колькасць навучэнцаў «хатніх школ» павялічваецца на 15%..

Галоўнымі падставамі, па якіх бацькі вырашаюць не аддаваць дзяцей у традыцыйныя школы, гэта – нізкая якасць адукацыі і цяжкая крымінагенная атмасфера ў школах. Апытанні паказваюць, што шмат амерыканскіх бацькоў перакананыя, што школы не здольныя прышчапіць іхным дзецям неабходныя этычныя і маральныя якасці. Апроч таго, «хатнія» дзеці праводзяць у тры разы меней часу каля тэлевізара, чым іхнія аднагодкі, якія атрымоўваюць традыцыйную адукацыю.

Некаторыя спецыялісты лічаць, што «хатнія дзеці», якія перамагаюць сваіх аднагодкаў – толькі вяршына айсберга, паколькі многія «выпускнікі» хатніх школ не ўдзельнічаюць у падобных спаборніцтвах не з-за сваёй сціпласці, а з-за кепскіх ведаў. Апроч таго, школа дае дзецям магчымасць атрымаць навыкі паводзінаў у грамадстве – чаго яны пазбаўленыя ў цяплічных хатніх умовах.

Прыхільнікі хатняй адукацыі аперуюць іншымі фактамі. У прыватнасці, шэраг даследаванняў паказвае, што выпускнікі хатніх школ становяцца лепшымі працаўнікамі і радзей парушаюць закон.

На думку псіхолага Лары Шаерса, які вывучаў гэтую праблему, прычына ў тым, што "хатнія» дзеці маюць перад вачыма лепшыя ўзоры паводзінаў, чым іхныя аднагодкі ў школах. «Хатнія» дзеці бяруць прыклад са сваіх бацькоў (як правіла, займацца хатняй адукацыяй сваіх дзяцей вырашаюць высокаадукаваныя людзі), а школьнікі – са сваіх аднагодкаў, якія дэманструюць далёка не лепшыя ўзоры паводзінаў.

**Па матэрыялах Washington Profile**

**У Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы ў Мінску адкрылася выстаўка габеленаў і графічных работ мастачкі Людмілы Пятруль «Казкі новыя ў свет». Выстаўка экспануецца да 24 лютага штодзённа з 10.00 да 17.00 па адрасе: вул. Я. Купалы, 4.**

# Арышт настаўніцы

## *Урывак з рамана*

Алесь РЫБАК



У хату, не пастукаўшыся, зайшла, напусціўшы клубы марознай пары, Клаўдзя, іхняя паштарка. Верка ўсхапілася з шлабана, чамусьці занепакоілася. Ведала, што пісьма ад Колі яшчэ не павінна быць, бо толькі тыдзень як атрымала. Хіба мо ад Слаўка з таго яго Суворaўскага вучылішча?

Клаўдзя, не знімаючы з пляча пацёртую да дзірак брызентавую торбу, прысела на вольны край шлабана і, хукаючы на чырвоныя ад холаду рукі, сказала:

– Заўтра, як уходзяцца, у Вінцуковай хаце сход мецьме. Будуць упаўнаважаныя са Стаўбуноў. Бурдзейка загадаў усіх абысці і наказаць. Відаць, пра калхоз будуць...

Навіна гэтая ні для Веркі, ні для Юзіка не стала нечаканай. Яны ведалі, што рана ці позна і да іх вёскі дабяруцца. Вунь амаль паўсюль кругом – і ў Печкурах, і ў Залужжы, і ў Сверычах – прайшлі сходы, людзі хто самі, хто пасля ўгавораў, а то і пагроз напісалі заявы, і цяпер там аб'ядноўваюць усё, ладзяць гэтыя самыя калгасы.

Іхняя ж Галаброды неяк дасюль абыходзілі, і ў таго-сяго пачала ўжо цепліцца надзея, што мо абыдзецца, мо іх не зачэпяць, мо ўжо нацешыліся тымі калгасамі і пакінуць іх у спакоі. Ага, пакінуць, чакай...

Клаўдзя, трохі пагрэўшыся, пайшла, а Юзік адразу паклаў свой гэблік, іншы рыштунак пад шлабан, пачаў падмятаць стружкі. Ведаў – работа сёння больш не будзе клеіцца. Верка таксама не лягла, бязладна тапталася па хаце, не знаходзячы сабе пэўнага занятку. Нарэшце нешта надумала, апранула кажух, завязала на галаву ваўняную хустку і памкнулася да дзвярэй. Ужо на парозе кінула:

– Схаджу да Ліды, мо што Іван яе чуў, ён жа сёння меўся ехаць у сельсавет, дзіця запісваць.

Верка пайшла, а Юзіка няўцерп пацягнула ў хлеў. Хоць было яшчэ ранавата карміць нанач скаціну, але ён не стрываў, злазіў на вышкі, скінуў бярэмца мурожнага сена, даў спачатку трохі Сойцы, якая ад задавальнення мыкнула, пацягнула сваю вільготную пысу да ягонай рукі, пасля рэшткі панёс у загародку насупраць. У паўзмроку не адразу згледзеў, што конь ляжаў, і Юзік ледзьве не напароўся на яго. Малыш борзда ўскінуўся на ногі, таксама памкнуўся да рук гаспадара. Юзік навобмацак – вока яшчэ не асвойталася ў гэтым паўзмроку – знайшоў яслі, паклаў туды сена. Конь, пераціраючы зубамі чарговы шматок сена, павярнуў голаў да гаспадара, хітнуў галавой, бы дзякуючы за нечаканы пачастунак. Юзік не стрываў, абняў каня за шыю. Рукам было цёпла, і ён гладзіў і гладзіў, бясконца церабіў у пальцах негустую гладкую поўсць. Але замест радасці гэты раз нагорталіся на вочы слёзы. Балюча было думаць, што і зямля, з якой ужо звыкся і на якой выліў нямала поту, і вось гэты Малыш, і яшчэ многа чаго заўтра могуць стаць не яго, не іхняе з Веркай нажытае, купленае ці зробленае сваімі рукамі, а калгаснае, лічы, ужо нічыё.

Каб не расвельваць сябе (ат, што будзе, то будзе) і не паказаць Верцы, што яго надта хвалюе той заўтрашні дзень, Юзік пайшоў у гумно, з загарадкі ў куце выкінуў на святло дзесяткі два жытніх снапоў. Зняўшы перавяслы, ён пачаў кругам, так, каб калоссе было ў сярэдзіне гэтага круга, высцілаць снапы на цвёрда выбітым таку.

Цэп быў хвацкі, прывезены яшчэ адтуль, з Беласточчыны. Юзік майстраваў яго сам, так, каб ён быў у меру і цяжкі і разам з тым не адбіраў рук. Гэты цэп ён звычайна даваў Вадзіму, калі малаціў удвох, сам жа браў другі, трохі цяжэйшы і не такі спрытны, але ўсё роўна яшчэ прыдатны для работы...

*

Вадзім сёння таксама быў як ніколі ўзрушаны, нават ашаломлены. Ды і не ён адзін. Сёння ўся школа гула, як патрывожаны вулей. І не дзіва: на вачах ва ўсіх адбылося нешта незразумелае, нават страшнае...

А пачынаўся ж дзень, як і звычайна ў школе: мітусня ля вешалак, бясконцае ляпанне ўваходных дзвярэй, адкуль цягнула холадам, бурчанне прыбіральшчыцы, калі хто, асабліва з хлапчукоў-падшыванцаў, цягнуў на валенках ці бурках процьму снегу, беганіна па калідорах, што аж гойдаліся дошкі, самых гарэзных і непаседлівых.

Гэты раз Вадзім прыйшоў у клас першы. Ён чакаў Валодзю Родзіка, каб спісаць у яго задачы па фізіцы. Учора яны дамовіліся аб гэтым. Валодзя, праўда, цягнуў яго пасля ўрокаў дадому, абяцаў пачаставаць мёрзлымі антонамі, заадно і задачы разам парашаць. Аднак Вадзім, хоць і не вельмі рашуча, адмовіўся. Спаслаўся на тое, што трэба шурыну памагаць, бо сястра не можа – цяжарная, а яму ж яшчэ і далёка ісці такой замеццю.

Заняткі пачаліся, а Валодзя чамусьці ў клас не з'явіўся. Першым урокам была геаграфія, але замест Святланы Мікалаеўны, іхняе геаграфічкі, у клас пасля званка зайшоў Аляксей Мітрафанавіч, дырэктар школы. Ён вёў гісторыю, а гэты прадмет быў сёння ў раскладзе другім.

– Што са Святланай Мікалаеўнай? – са спагадай спытаў Янка Шакурны. – Яе ж урок...

– Захварэла. Праз гаспадыню перадала, што тэмпература, – Аляксей Мітрафанавіч разгарнуў журнал, пачаў правяраць прысутных. – А Родзік дзе? – цяпер ужо звярнуўся з пытаннем да класа. – Ён другі мой урок прапускае.

Коля Горчак не вытрываў, таямніча-хітравата хіхікнуў:

– Таксама тэмпература. Уга, і ў мяне ўзнялася б, каб гэтулькі ля плота прастаяў. Ды з кім...




Мінск. Дэманстрацыя на свята Кастрычніка. 1937 г. Шэсць дзён назад прагучалі першыя стрэлы ў Курапатах.

Дырэктар сёння быў лагодны, перачакаў і смех, і разборкі, але пасля, нічога, відаць, не зразумеўшы (а мо прытвараўся?), адразу неяк пасуравеў і, не выклікаўшы нікога для адказу, пачаў расказваць новую тэму.

Яму не далі давесці ўрок да канца. У дзверы нерашуча пастукалі, і не паспеў Аляксей Мітрафанавіч слова сказаць, як яны са скрыгатам прачыніліся, паказалася галава чымсьці вельмі ўстрывожанай, нават перапалоханай прыбіральшчыцы.

– Каму няўцерп? Ці што здарылася? – павярнуў да яе голаў дырэктар, вагаючыся, выйсці ў калідор і там усё высветліць, ці пачуць, што яна хоча сказаць, тут жа, у класе.

– Там...там...прыехалі...Сядзяць у вас. Загадалі...

Па дрыжачым голасе, бяскроўных губах цёткі Лёксы (так звалі гэтую старую, плоскую, як трэска, кабету і школьнікі, і настаўнікі) Аляксей Мітрафанавіч зразумеў: трэба ісці, нешта адбылося такое, што без яго ўдзелу аніяк не разбярэцца.

Спусціўшыся на першы паверх, ідучы па пустым пакуль што калідоры да свайго кабінета, ён скрозь прасветы ў расцісаных марозам шыбах вокан згледзеў ля брамкі чорны сілуэт легкавушкі. Нядобрае прадчуванне абпаліла ў яго ўсё нутро, іголкай кальнула ў сэрца.

У кабінеце ў форме работнікаў органаў бяспекі сядзела трое.

– Здравствуй, здравствуй, дорогой, – на ківок дырэктара неяк загадкава-зласліва адказаў адзін з іх, які, не зняўшы нават шапкі, па-гаспадарску ўсеўся за сталом, паклаўшы наверх пульхныя, нездарова белыя рукі. Двое іншых, таксама ў галаўных уборах, размясціліся на кушэтцы. Маладзейшы, што быў бліжэй да дзвярэй, курыў. Пры з'яўленні дырэктара ён, праўда, памкнуўся патушыць цыгарэту, але іранічны погляд таго, за сталом, відаць, старшага па чыну, прымусіў курца схамянуцца, зноў запыхкаць дымам.

– Чым абавязаны важным гасцям? – Аляксей Мітрафанавіч, не знаходзячы сабе месца, таптаўся пасярод пакоя, ліхаманкава прыкідваючы ў думках, як сябе паводзіць, што пытацца і што гаварыць. Страх, які на першым часе ледзь не паралізаваў яго, паціху пачаў праходзіць. З'явілася нават злосць.

– Гэта маё рабочае месца, – ён падышоў да стала, як не на самыя рукі нязванага візіцёра кінуў класны журнал.

– Место тебе будет, не беспокойся, насидишься, – незразумела з якім намёкам выціснуў скрозь зубы старшы, але ўсё ж падняўся, даў сесці дырэктару. – Свили здесь гнездо разные антисоветские элементы, а директор прикидывается святошей, будто ничего не понимает, не видит и не слышит.

– Вы пра што?! – ажно пабляў Аляксей Мітрафанавіч. – Тут нейкая памылка, недарэчнасць. У нас нармальная, здаровая школа, ніякіх «элементаў», як вы кажаце, у нашым асяроддзі няма.

Старшы хмыкнуў:

– Это кто как смотрит... – ён раптам напружыўся, вочы сталі халодныя і калючыя. – Хватит болтовни. Позовите сюда Беляцкую, учительницу вашу. И побыстрее! А нет – так сами пойдем и выведем ее. Кстати, в котором классе она сеет свою отраву? В восьмом «а»?

– Якую атруту? Што вы гаворыце?! – Аляксей Мітрафанавіч кінуўся ў крэсла, хапіўся за сэрца. – Яна – лепшая ў раёне настаўніца беларускай літаратуры, гэтулькі ведае, дзеці любяць яе. Яна сама піша вершы, сустракалася з многімі вядомымі пісьменнікамі... ставіць у школе спектаклі...

– Гавно все это! – раптам гаркнуў бялёсы і, узмахам рукі падняўшы з кушэткі двух сваіх хаўруснікаў, загадаў: – Найдите ее и в машину! И чтоб не пикнул никто!

Аляксей Мітрафанавіч як не ўзмаліўся:

– Таварышы, таварышы! Лепш ужо я сам паклічу яе сюды. Вы ж усю школу паставіце на вушы, перапужаеце дзяцей. Што яны падумаюць?

– Тебе нужно было заранее думать, кем себя окружил... – старшы ўсё ж даў адбой напарнікам, якія ўжо выйшлі былі ў калідор. – Так и быть, пусть сам приведет. Только без дураков!..

Яны засталіся ў кабінеце, а дырэктар зноў, ледзь валочачы ногі, падняўся на другі паверх, хвіліну, прыхінуўшыся да сцяны, пастаяў, аддыхаўся. Сэрца ўсё таххала, як усё роўна шалёнае, неспадзеўкі заныла рана ў левым плечуку, атрыманая пры апошнім тым кідку на Заслаўскія вышыні. «Тады, беспрытомнага і акрываўленага, выцягнулі, уратавалі, хоць і паваляўся ў шпіталі. У каго ж зараз прасіць помачы?.. – малаточкам стукала ў голаў думка... А калі б да першага, да самога Ракуцкага? Ён жа ведае мяне, а неяк, калі наведваўся ў школу, гаварыў добрыя словы і пра Бяляцкую. Узяць бы ды пазваніць у Стаўбуны...»

Аляксей Мітрафанавіч, нягледзячы на задышку, памкнуўся спусціцца з лесвіцы назад, але ўспомніў, што тэлефон ужо тыдзень як не працуе ні ў сельсавеце, ні на пошце, ні ў іх, недзе парвана лінія, і ніхто з раёна чамусьці нават не чухаецца. Ён вынуў з кішэнькі штаноў гадзіннік, шчоўкнуў вечкамі, глянуў, колькі часу. Да званка на перапынак заставалася сем хвілін. Трэба было на нешта рашацца, марудзіцца больш не выпадала.

Ён мінуў восьмы «в», які пакінуў колькі хвілін назад. Здзівіўся нават, што там без настаўніка досыць ціха, не ходзяць на галаве. Праз адны дзверы быў і восьмы «а», дзе вяла ўрок Тамара Пятроўна. Аляксея Мітрафанавіча зараз здзівіла, адкуль тыя трое, што засталіся ў кабінеце, ведаюць дакладна, у якім класе зараз Бяляцкая. «Яны ўсё і пра ўсіх ведаюць», – з гэтай несуцяшальнай думкай ён адчыніў дзверы, зайшоў у клас. Усе зашоргалі вечкамі партаў, усталі, вітаючыся з дырэктарам. Лёгкім узмахам далоні ён пасадзіў вучняў на месца, а Тамары Пятроўне, якая стаяла ля падваконніка, нешта шапнуў на вуха.

– А нельга пачакаць? Хутка ж перапынак... – Тамара Пятроўна трохі здзівілася, аднак у голасе дырэктара адчула нешта трывожнае, і калі ён, імкліва, не зачыніўшы нават дзверы, выйшаў, яна папрасіла дзяцей пазаймацца самастойна і падалася ўслед за ім.

Невядома, хто найраней з вучняў дазнаўся, але чутка пра тое, што прыехалі арыштоўваць іхнюю вучыцельку, імгненна абляцела спачатку другі паверх, пасля першы, дзе месціліся малодшыя класы. Калідор імгненна напоўніўся тлумам і бязладным тупатам дзесяткаў ног. Усе беглі на першы паверх, у вестыбюль, дзе з аднаго боку быў кабінет дырэктара і настаўніцкая, з другога – вешалкі.

Вадзім, не зразумеўшы спачатку, што за вэрхал падняўся, выйшаў з класа і спусціўся на ніз ледзь не апошні. Ён трохі спазніўся, не ўбачыў, як выводзілі з кабінета самлелую Тамару Пятроўну, як трымалі яе пад рукі двое невядомых у форме, таропка цягнулі да выхаду. На вуліцу, на ганак, загарадзіўшы сабою ўваходныя дзверы, дырэктар нікога не пускаў, дрыготкім голасам, якога ніхто не пазнаў, прасіў усіх разысціся па класах, сесці за парты, пераконваў, што гэта нейкае непаразуменне і настаўніцу хутка адпусцяць, вось толькі звозяць у Стаўбуны, пагавораць трохі і прывязуць назад. Мо нават і да канца заняткаў гэта зробяць. Аднак ніхто яго не слухаў, не хацеў разыходзіцца, нават калі і скончылася перамена. Настаўнікі, бледныя, разгубленыя, таксама ўсе былі тут, у вестыбюлі, сноўдаліся, бы цені, туд-сюд, рабілі бачнасць, што памагаюць дырэктару суняць вучняў, угаварыць ісці на ўрокі.

Вучобы ў той дзень, хоць пасля і праходзіла ўсё, як заўсёды – званкі на ўрок, перамены, не атрымалася. Нікому нічога не лезла ў галаву.

# Вінцэнт Канстанцін



## Кастусь Каліноўскі

Марыська чарнаброва, галубка мая!
Дзе ж падзелася шчасце і ясна доля Твая?
Усё прайшло, прайшло – як бы не бывала,
Адна страшэнна горыч ў грудзях застала.
Калі за нашу праўду Бог нас стаў караці
Дый ў Прадвечнага саду вялеў прыпадаці, –
То мы прападзём марна, а праўды не кінем,
Хутчэй Неба і шчасце, як праўду, абмінем.
Не наракай, Марыся, на сваю бяздолю,
А прымі цяжкую кару – Прадвечнага волю.
А калі мяне ўспомніш, шчыра памаліся,
То я з таго свету табе адзавуся.

* * *

Бывай здаровы, мужыцкі Народзе.
Жыві у шчасці, жыві у свабодзе
І часам спамяні пра Яську свайго,
Што загінуў за праўду для дабра Твайго.
А калі слова пяройдзе у дзела,
Тады за праўду станавіся смела,
Бо адно з праўдай у грамадзе згодна
Дажджэш, Народзе, старасці свабодна.

**1864**

## Жыць у свабодзе

Для серыі «Школьная бібліятэка» мною былі ўкладзены кнігі пра Ф.Скарыну «Слаўны сын Беларусі», пра М.Багдановіча «У бязмежную даль», пра Янку Купалу «Свой пачэсны пасад». У 1996 годзе выйшла «кніга пра Каліноўскага» пад назвай «Жыві ў свабодзе!». У раздзеле «Да беларускага люду» там былі змешчаны вершы і публіцыстыка самога Кастуся Каліноўскага, нашага нацыянальнага героя. У раздзеле «Вядзі нас на ахвярную сяўбу» трапілі паэмы Максіма Танка і Аркадзя Куляшова, трагедыя Уладзіміра Караткевіча, аповесць Сакрата Яновіча, урывак з аповесці Адама Мальдзіса, апавяданне Івана Капыловіча і толькі адзін верш – Петруся Броўкі. А паэтычных твораў, прысвечаных грамадзянскаму подзвігу Справядлівага (К.Каліноўскага) напісана нямала. Іх аўтараў натхняла мужнасць кіраўніка паўстання 1863–1864 гадоў, адданасць Бацькаўшчыне, самаахвярнасць у змаганні за свабоду, за сацыяльную роўнасць, за права людзьмі звацца ў вялікай супольнасці еўрапейскіх народаў.

Калі б знайшоўся выдавец, мы маглі б мець ладную анталогію з твораў пра Яську-гаспадара з-пад Вільні, легендарнага Вітажэнца. А пакуль, адзначаючы 165-годдзе з дня нараджэння рэвалюцыянера-дэмакрата, шчырага абаронцы правоў чалавека Кастуся Каліноўскага, прапаную чытачам маленькую нізачку вершаў, прысвечаных нашымі паэтамі гэтаму выдатнаму чалавеку.

**Сяргей Панізьнік**

**Сяргей Панізьнік**

***У радню сабраццa***

*Няма ж, браткі, большага шчасця на гэтым свеце,як калі чалавек у галаве мае розум і навуку. Тагды ён толькі магчыме жыці ў багацтве, па праўдзе, тагды ён толькі,памаліўшыся Богу, заслужыць неба, калі збагаціць навукай розум, разаўе сэрца і радню цэлу сэрцам палюбіць.*

 Яська-гаспадар з-пад Вільні

Хто з нас можа сэрца развіваць,
жыць па праўдзе, не ілгаць нікому?
Хто з нас будзе Беларусі-Дому
голае найменне набываць?
Лёс пакінуў, ачумелых, нас
адзінокаькіх на раздарожжы
з вераю, што выберам шлях Божы, –
не ярмо ў яшчэ адзін калгас.
Мы генсекаў елі мухаморы,
прэзідэнтаў слухалі лухту...
Божа, накіруй на праўду,
скінь электаратаўскія шоры.
Запаведзі - промнямі - ўваччу.
Я стаіўся на глухой паляне:
раптам неба з благаславеннем гляне, –
што я гаспадарна пракрычу?
Каліноўскі блісне маланёй –
узгадаюцца за фразай фраза:
– Дзень і ноч у нас не пойдуць разам!
Будзем, паспалітыя, раднёй!

**Ларыса Геніюш**

Адвечныя шляхі маёй Айчыны,
Мячы і кнігі Белае Русі,
І гарады, дзе родзяцца Скарыны,
Сялібы, скуль выходзяць Кастусі.

Благаславенныя лясы нашы і рэкі,
Наш белы сад, блакітныя ляны.
Благаславенныя заўсёды і навекі,
Краіны нашай верныя сыны!

**Сяргей Грахоўскі**

Больш за сябе я Беларусь люблю,
І ёю з нараджэння ганаруся.
Праб'е мой час, як Каліноўскі праз пятлю,
Я нізка пакланюся Беларусі.

**Валеры Маракоў**

***Чуеш, Беларусь?***

*Кастусю Каліноўскаму*

Былі імкненні,
Мары,
Барацьба,
Былі пажары бацькаўскіх палеткаў.
Ўзнімала сцяг свой
Галыцьба –
Іх пачуццё і радасці іх
Сведку.

Кляпалі косы,
Плавілі сякеры,
На панскі чэрап плавілася сталь.
Ў разгары іх
Вялікай веры
Ён на чале, павадыром іх
Стаў.

Любоў і вера...
Мары й маладосць...
Хто іх стрымае прагнаю рукой,
Дзе здзек,
Дзе каштаванне ёсць –
Не можа быць там ціша
І спакой.

Кіпела сэрца над нядоляй краю,
Ўздыхаў наш край
Балотнымі грудзьмі.
Тут пад пятой
Расійскіх генералаў
Душыўся ён крывёю
І слязьмі.

Ішла стыхія...
Воля...
І адплата...
Палаў касцёр ў расхрыстаных грудзёх.
З любоўю сына,
Друга,
Брата
Ён аддаваў юнацкае жыццё...

О, Беларусь!
Ці чуеш ты,
Ці чуеш?..
Твой лепшы сын распяты за цябе.
Няўжо ў грудзёх тваіх
Начуе
Яго вялікіх дум разбег?

О, мабыць не,
Я чую твае словы...
Я чую твой пылаючы уздым –
Яны, як радасць песні
Новай
Даюць натхненне й веру
Маладым.
1928

**Алесь Разанаў**

***Арышт Кастуся Каліноўскага***

Аблога...
Крокі...
Ляск...
Прыцемненыя сцены,
і дрогкай свечкі бляск,
і на парозе цені.
І месяц паўз акно
слізне, як паражэнец –
на схіл усё адно...
Як зваць вас?
Вітажэнец.
Утойваюць муры,
сцярожкі бор таемны
да іншае пары
імя яго нядрэмна.
Да іншае пары
пакінуты сякеры,
да іншае пары
сышлі касіянеры.
І запазычан край,
і аціхаюць знічы...
Хавай,
хавай,
хавай
сапраўднае аблічча!
О, наступ нематы –
нябога... выраджэнец...
І ўжо знікаеш ты...
Няма ўжо...
Вітажэнец...
Ні вучняў, ні сяброў...
Сарвецца шлях памглёны...
Як волю і любоў,
дае нам час
імёны.
Учэпяцца... –
з пятлёй –
не выбіцца... –
ажэняць...
Па той бок – што па той?..
Па гэты –
Вітажэнец.
Заўжды – адзін адказ,
утойванне... змяншэнне...
Але прыходзіць час
імя і ўваскрашэння.
Ўсе ніты ў сувой,
у заклік пагалоскі
з'яднаць –
і стаць сабой!..
Як зваць вас?
Каліноўскі.

**Алесь Жамойцін**

***Балада пра ўцалелых паплечнікаў Каліноўскага***

Зоркі цьмяна высвечваюць ветах,
Як стамлёны у бітвах клінок.
На адвечных арбітах планеты
Не зматаюць бясконцы клубок.

Над ракою ўздыхае цяпельца
На задумлівых тварах сяброў.
Хто ж мы – вартыя жалю тапельцы
На каменных далоняў вякоў?..

Ні кала, ні двара, ні бажніцы;
Толькі воблакі вольна плывуць.
Зноў чужому па звычцы маліцца;
Зноў пакорліва спіны сагнуць?..

...Ды з туманаў вынырваюць коні,
Зброя коннікаў грозна звініць, –
Старажытная наша Пагоня
Да агню на ратунак ляціць.

Весялей уздыхае цяпельца;
Праясняюцца твары сяброў.
Не астыць беларускаму сэрцу
На каменных далонях вякоў!..

**Данута Бічэль**

***Белавежская пушча***

Белавежская пушча наўкола.
Прахалода.
Водар хваёвы.
Тут знайшоў Гусоўскі Мікола
Пра зубраў і прадзедаў словы.

Вольхі, лозы, між іх – азярына.
Тут напіўся Францішак Скарына.
– Каго любіш?
– Люблю Беларусь! –
Тут казаў Каліноўскі Кастусь.

Бор туманам падпяразаны.
Тут хадзілі ў бой партызаны,
Каб ачысціць ад ворагаў край.
Ты тут раннія песні збірай.

**Максім Танк**

***Вільня***

Сівая хмара сцерла сонца,
Вясенні першы дождж заплакаў.
Па чарапіцы і па гонце
Разліўся вечар сінім лакам.
І ноч прыйшла з прадмесця вуліц,
Палезла на званіцы, вышкі.
Сабакам чорным вецер скуліць
Пад шэрым мурам, пад Лукішкім.
Гараць агні ў вялікіх вокнах,
І крык газетчыкаў, рэкламы,
Ды на вясеннім бруку мокнуць
Ад ліхтароў жывыя плямы.
А на пліце цяжкой, бетоннай
Дождж граззю прозвішчы заплёскаў, –
Баладу віселіц сцюдзёных

# Каліноўскі (1838–1864)

Гаворыць Каліноўскі.
Мо расказаць табе пра нашы
Пра барыкады і удары?
Пра тых байцоў, што палі ў маршы,
Мо расказаць табе, таварыш?
Мо расказаць табе пра заўтра,
Пра песні-сны, што ў нашых казках?..
Цішэй, ідзе бульварам варта,
І блудзіць дождж па бруку гразкім,
А дрэвы нешта мне гавораць...
Увесь пакрыт я мокрым снегам...
Ну дзе ж сягоння, родны горад,
Мяне прытуліш без начлегу?

**Мікола Ермаловіч**

Як верыцца цяжка,
Што ў нас Каліноўскі радзіўся,
Што нам нашу праўду
Ён сеяць аддана пачаў.
Што клічам ягоным
Наш дух змардавання будзіўся.
Што з воч нашых ён
Слепату векавую здымаў?

Няўжо разам з ім
Наша праўда была закавана
І катам бязлітасным
Узведзена на эшафот?
Няўжо разам з ім
Наша праўда была пахавана,
Каб жыў у чужацкай хлусні
Беларускі народ?

**Васіль Жуковіч**

***...Пятлю здымаючы з паўстання***
*Акраверш*

Калі прыходзіць верны час змагання, –
А ён – у ходзе ўсіх-усіх эпох, –
Любоў вышэйшую дае герою Бог
І з ёй - гатоўнасць да выпрабаванняў...
Няхай бы ворагаў Ты перамог –
О, як наш край расцвіў бы! Неўміручы
Ўладар, прарок свабоды немінучай,
Свой дух магутны ў праўдзе ты збярог.
Каб волі час наблізіць, без ваганняў
Ідзеш, пятлю здымаючы з паўстання.

**Алесь Чобат**

***Час касінераў***

Ты цяпер не адзін –
да народа вяртаецца вера
у другое жыццё.
Прэч маўклівасць і згоду сваю!
І да нашых мясцін набліжаецца час
касінераў,
і наступіць на горла аднойчы мой люд
гадаўю!

Нам не трэба дазволу...
Мільёны забітых за намі.
Гэта наша зямля,
гэта нашы лясы і палі.
І гудуць у нябёсах
паўстанцкія душы званамі,
а нашчадкі паўстанцаў
збіраюцца зноў на зямлі...

Зноў нас будуць душыць
з дапамогай глухіх ды спакойных.
Мы яшчэ павандруем
далёка за Нёман і Сож,
калі час касіянераў
заменіцца часам бяззбройных,
калі час безгаловых
цялём папляцецца пад нож.

Зноў «шалёных» няма!
Без гарантыі кроку не ступяць
і не вераць нікому,
і слова сказаць не даюць.
Гэта наша зямля,
гэта наша адданасць і тупасць,
калі ў збітыя душы
яшчэ дадаткова плююць.

Толькі нам не канец.
Мы працяг да другіх пакаленняў.
Грамадзяне з натоўпу
рабіцца людзьмі пачалі,
бо Кастусь Каліноўскі
застаўся ў душы і сумленні,
а не ў голым граніце
застаўся на гэтай зямлі.

**Вольга Куртаніч**

***Кастусю Каліноўскаму***

Скача, скача новы веснік
на бацькоўскія магілы,
На зявечаныя ветрам,
спарахнелыя крыжы.
«Падымайся,
Ты, забіты,
Падымайся,
Ты, жывы...»
Падымайся браце кроўны,
Голаў годна падымі!
«Падымайся,
хто нам роўня,
падымайся,
Ты, жывы...»
Па чыіх жывеш законах,
Ты чые спяваеш песні?
Лёс, бацькамі надароны,
Адрадзіся,
Уваскрэсні!
Азярніся на дзіцятак –
На якой гавораць мове?
Ад якіх такіх парадкаў
Пазабылі свае словы?
«Мерцвякі, – гукаюць, – спіце,
Сон вам будзе ціхамірны.»
Сон ваш – сонейка ў зеніце.
Боль ваш – круціць доля ў віры.
Уваскрэсні,
Боль па мове!
Уваскрэсні,
Памяць продкаў!
Вас прыспалі адмыслоўна
З доляй новаю гаротнай.
Адурманіць не ўдалося –
Пільна сочыце за кожным.
Набрыняе боль з калоссем
Па палетачках,
па пожнях.
Ды вяшчальнік хутка скача
праз бацькоўскія магілы,
Праз зявечаныя ветрам,
спарахнелыя крыжы:
«Падымайся,
Ты, забіты,
Падымайся,
Ты, жывы...»

**Алесь Дудар**

***Кастусь Каліноўскі***

Беларусі паўстаўшая слава,
Беларусі – ў пояс паклоны.
Хай мінулае цемра заслала –
а змаганне не забыць ніколі.

Эх, Кастусь... Балоты памераў,
а ў лясах,
як у бацькавай хаце.
Беларусь табе паверыла –
за табою пайшла змагацца.
Беларусь – не царам маскоўскім,
Беларусь – не варшаўскім панам!
Зазвінелі ў небе бярозкі,
дуб стары галаву падняў.

Забуяніла ў полі рэхам:
– За мужычую праўду – у бой!..
Не Ілля па хмарах праехаў,
не Пятро зазваніў булавой...

А пасля – астрожныя краты...
Што з таго, што жыцця не стане.
Твае слёзы важыць на караты:
– Залілі, загасілі паўстанне...
Скалыхнуўся натоўп на Лукішках;
– На Беларусі няма шляхты!..
Можа, кат успомніў за кілішкам,
як памёр мяцежнік пракляты.

Маліцца не наша справа.
Кастуся мы папросту ўспомнім:
Беларусі паўстаўшай – слава,
Беларусі – ў пояс паклон.
1925

**Наталля Арсеннева**

***Песня Каліноўцаў***

Палыном і быллём параслі нашы
нівы,
як ні б'емся, ні гнёмся над імі у крук,
плён адвеку чужынцы збіраюць, не
дзіва,
што канае народ твой і ты,
Беларусь!

Але годзе! Мы ўстанем!
Ціхім раннем, на ўсходзе,
ссыплем, згорнем у шапкі залатую
зару
і ў сталёвым ад кос і ад песняў
паходзе
возмем волю сабе і табе,
Беларусь!

Каліноўскі нас кліча і агніста й зацята,
на змаганне за свята для мазолістых
рук,
за зямлю для аратых,
і за сонца ў хатах,
за увесь твой народ, за цябе,
Беларусь!

Дык ударма, як гром, дык лінем
навальніцай,
дык праб'емся ж крыніцай
з-пад зямлі угару,
каб мядзянай пшаніцай мог
зігцець-каласіцца
наш загон, і бязмежжы твае –
Беларусь!

**Іван Рубін**

***1863***

Гулкі ляскат калёс.
Іскры. Цокат падкоў
Патрывожыць здалёк
Скляпяні ўсіх вякоў.

Лёду тоненькі хруст.
Лёсу спее прадвесне.
Беларусь... беларус...
Зачыналася песня.

Калясіць каляя
Ад павета к павету.
Дзецюкі!
Доля хай жа свая
Прарасце запаветам

Дзецям вашым і ўнукам,
Дарагою пагоняй,
Без царовай прынукі,
Без расейскіх законаў.



Касцёлы св. Анны і Бернардынскі ў Вільні. Любімая віленская мясціна Каліноўскага. Здымак пачатку мінулага стагоддзя

# Старэйшы сябар Купалы

Уладзімір Самойла нарадзіўся 29 студзеня 1878 года ў Мінску, адукацыю атрымаў ў Маскоўскім і Пецярбургскім універсітэтах. Валодаў сямю мовамі, стаў доктарам навук, меў мастацкую адоранасць – займаўся маляваннем, іграў на фартэпіяна.

Сяброўства з Купалам пачалося ў яго студэнцкія гады. Уладзімір Самойла кожнае лета праводзіў канікулы ў фальварку бацькоў Казіміраўцы, што недалёка ад Мінска. Побач знаходзіўся хутар Мачаны, дзе жылі сваякі Купалы. Наведваючы іх, будучы паэт часта заглядваў і ў Казіміраўку. Тут і адбылося знаёмства падлетка са студэнтам. «З таго часу, – піша ва ўспамінах жонка Купалы Уладзіслава Луцэвіч, – пачалася іх дружба, якая цягнулася доўгія гады. Уладзімір Самойла асцярожна і ўважліва ставіўся да творчых пачынанняў Янкі Купалы. Ён, можа, першы зразумеў, што яго малады сябар – чалавек з вялікім паэтычным талентам. І акружаў яго ўвагай, імкнуўся стварыць яму ўмовы для росквіту яго здольнасцей».

Самойла быў старэйшы за Купалу. Гутаркі з ім былі для юнага Яся і цікавымі, і карыснымі. Ён добразычліва ставіўся да маладзейшага сябра, ахвотна згадзіўся дапамагчы падрыхтавацца да паступлення ў Мінскае рэальнае вучылішча. «Усё лета начамі Ясь сядзеў за кнігамі. Відаць? гэта былі і падручнікі, якія яму прыносіў Самойла. Не адну гадзіну прасядзелі за імі рэпетытар-настаўнік і яго вучань», – успамінае сястра паэта Леакадзія Раманоўская.

Пасля заканчэння універсітэта У.Самойла вяртаецца ў Мінск і працуе журналістам. «Я ўжо тады пісаў свае вершы, паказваў іх У.І.Самойлу, – успамінаў паэт. – Ён заўсёды хваліў і заахвочваў мяне да пісання».

Пры садзеянні Самойлы ў маі 1905 года ў газеце «Северо-Западный край» з'явіўся верш Янкі Купалы на беларускай мове – «Мужык». Першае літаратурнае выступленне маладога паэта, безумоўна, мела вялікае значэнне для творчага лёсу Купалы. Калі б не ўдзел Самойлы, то Купала, магчыма, пачаў бы друкавацца значна пазней.

Задоўга да выхаду зборніка Купалы «Жалейка» Самойла чытаў вершы паэта ў рукапісу. «Калі я жыў на вёсцы, многа напісанага я перадаваў Самойлу», – успамінаў паэт. Уладзімір Самойла, здаецца, бачыў у Янку свайго духоўнага брата, з якім сам далучаўся да беларускага нацыянальнага Адраджэння. Самойла быў адным з заснавальнікаў першага беларускага кніжнага таварыства «Мінчук» (1906–07), рыхтаваў там да друку першы зборнік Купалы «Жалейка». Але не было сродкаў, і суполка распалася. Тады Самойла скарыстаў свае пецярбургскія знаёмствы з прафесарам Браніславам Эпімах-Шыпілам, фактычным кіраўніком беларускай выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца» (1906–14). Эпімах-Шыпіла падрыхтаваў зборнік. Тут і была надрукавана «Жалейка».

Уладзімір Самойла адгукнуўся на выхад «Жалейкі» дзвюма рэцэнзіямі. Першая была надрукавана ў «Нашай Ніве» 15 верасня 1908 года за подпісам «Уладак з Казіміраўкі». «Песні Купалы, – піша Самойла, – гэта люстра, у каторым свеціцца душа беларуса; гэта праўдзівы, непадроблены голас, што выходзіць з самой глыбіні народнай душы, гэта «крык, што жыве Беларусь». І хто раней не верыў, што беларускі народ зможа прачнуцца і пайсці сваёй дарогай, той цяпер мусіць прызнаць, што беларусы... захацелі «людзьмі звацца».

Другая рэцэнзія Самойлы – «Вялікае свята» – была змешчана ў газеце «Минский курьер». «На вуліцы маладой Беларусі вялікае свята! – захоплена пісаў крытык. – Сонца жывой, сапраўднай паэзіі заглянула ў аконца цёмны, бедный, але вялікай хаты беларускага народа...» Па словах Самойлы, вершы Купалы – сапраўдная «нацыянальная скарбніца», дзе чуюцца настрої і спадзяванні «народнай душы». «Гукі роднай «Жалейкі»... сталі нацыянальным скарбам для беларуса».

Нельга абысці ўвагай адзін цікавы матэрыял, што сведчыць пра цесныя сувязі Янкі Купалы з Уладзімірам Самойлам: верш-прысвячэнне У.Самойлы «Януку Купале. В ответ на поздравление с Новым 1907 годом». Відаць, што верш з'явіўся як адказ на Купалаўскае віншаванне, якое, трэба думаць, таксама было вершаваным.

Пяру Уладзіміра Самойлы належыць першая рэцэнзія на драматычную паэму Янкі Купалы «Адвечная песня», змешчаная ў №38 «Нашай Нівы» за 1910 год. «Імя Янкі Купалы, – піша Самойла ў рэцэнзіі, – многа гаворыць нашаму сэрцу: яно ўжо стала дарагім для ўсіх беларусаў, да каторых дайшла тры гады таму назад яго «Жалейка»; яно дорага і тым тысячам чытачоў «Нашай Нівы», што на старонках гэтай газеты прывыклі спатыкаць імя Купалы». Крытык спрабуе вызначыць ролю паэта і месца яго паэзіі ў развіцці беларускай літаратуры: «Паэзія Купалы – адзін з найцаннейшых скарбаў, якія нясе з сабой нацыянальнае адраджэнне беларусаў... Янка Купала – душа і язык прабудзіўшагася да новага жыцця народа, і ў гэтым усё значэнне яго паэзіі як нацыянальнае, так і агульналюдскае... Яго паэзія – гэта паэзія праўды...»

Купала прысвяціў свайму сябру адзін з вершаў цыкла «З песень беззямельнага», які ў лістападзе 1908 года з'явіўся ў «Нашай Ніве».

Калі Купала зноў прыехаў у Вільню, ён не раз бываў на кватэры Самойлы.

Захаваўся фотаздымак Купалы з дарункавым надпісам, дзе паэт сам ацэньвае яго ролю ў сваім жыцці: «На довад шчырага шацунку і сардэчнай прыязні найлепшаму і найсправядлівейшаму свайму ўчыцелю, дабрадзею Ул. Ів.Самойлу ад Янука Купалы. Вільня. 16/ХІІ – 908 г.

Шчаслiў будзь, заступніку бедных людзей.

Жыві, дажывіся больш радасных дней.

Я. Купала».

**Дзіяна КАВАЛЕВІЧ,**
**старшы навуковы супрацоўнік Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы**



***Уладзімір Самойла – крытык і даследчык літаратуры, публіцыст, паэт, перакладчык. Яго пяру належаць артыкулы пра творчасць Ф.Дастаеўскага, Л.Талстога, Метэрлінка, Г.Ібсена, Ю.Славацкага, А.Блока, П.Струве, Ус.Меерхольда, Г.Гофманстала і інш. Сярод яго сяброў былі Адам Станкевіч, Мар'ян Здзяхоўскі, Браніслаў Тарашкевіч, Антон Луцкевіч, Вячаслаў Багдановіч, Іларыён Свянціцкі, Рыгор Шырма, Радаслаў Астроўскі і іншыя дзеячы, якія вызначыліся ў беларускай асвеце і культуры.***

# Чужыя ва ўласнай краіне

Пачатак на стар. 5

У лісце народны пясняр звяртае ўвагу на адсутнасць беларускай мовы ў візуальнай прасторы, у гандлі на этыкетках тавараў, у галіне народнай асветы, у Акадэміі навук. Колас паказвае існаванне беларускай мовы ў горшых умовах у параўнанні з рускай: беларускія школы ў горшых будынках, на ўскраіку, фільмы дублююцца з рускай на беларускую, ды і не паказваюцца ў краіне, тэатры ставяць перакладныя п'есы, оперы, хаця і свае, беларускія творы ёсць. Саюзы кампазітараў і мастакоў, на думку аўтара, адмовіліся ад свае мовы. Па радыё гучыць «непрыхаваны здзек» з мовы, настолькі непрафесійна дыктары ёю карыстаюцца.

У лісце Колас выказвае дзве прапановы, якія, на яго думку, могуць палепшыць сітуацыю з роднай мовай. «Калі б кіраўніцтва краіны выступала заўсёды на нарадах, урачыстасцях, святкаваннях, а Міністэрствы культуры і адукацыі вялі сваю працу на мове беларусаў, то беларуская мова ўкаранялася б у жыццё».

У абарону беларускай мовы выступілі пісьменнікі, сярод якіх былі тыя, хто вярнуўся з турмаў і лагераў, быў рэабілітаваны і змог заняцца любімай літаратурнай працай. Цэлую нізку паэтычных зборнікаў выдаюць Сяргей Грахоўскі, Язэп Пушча, выходзяць зборнікі Ул.Дубоўкі, С.Шушкевіча, Алеся Звонака.

Замацоўваць пазіцыі роднай мовы пачалі маладыя пісьменнікі, тыя, хто закончыў яшчэ беларускія школы, чыя нацыянальная свядомасць фарміравалася на стыку сталінскай таталітарнай сістэмы і хрушчоўскай «адлігі», – Ніл Гілевіч, Рыгор Барадулін, Уладзімір Караткевіч, Васіль Быкаў і інш.

У краіне ў канцы 50-х пачалася хваля супраціву русіфікацыі, удзельнікамі якой былі людзі розных пакаленняў і адукацыі. На старонках газеты «Літаратура і мастацтва» разгарнулася дыскусія «Літаратура і час», і адным з галоўных пытанняў дыскусіі былі стан і перспектывы беларускай мовы ў краіне. Пачатак дыскусіі палажыў артыкул студэнта БДУ Барыса Сачанкі «Шанаваць родную мову», надрукаваны ў ЛіМе ў 1957 годзе, у якім аўтар звязвае прычыну звужэння сферы ўжытку роднай мовы з русіфікацыяй адукацыйнай, справаводчай, візуальнай і інш. прастораў.

Артыкул выклікаў шэраг лістоў неабыякавых людзей у газету, і дыскусія ішла на працягу некалькіх гадоў. Дыскутанты адзначаюць адсутнасць беларускамоўных падручнікаў, а таксама прафесійных кадраў у школах і ВНУ, працу Беларусьфільма і АН БССР спрэс на рускай мове, правядзенне заняткаў у беларускамоўных школах на змешанай, «трасянчанай» мове, адсутнасць кніг на роднай мове ў бібліятэках, перавод школ на рускамоўнае навучанне, зніжэнне колькасці гадзін на беларускую мову.

Супраціў русіфікацыі выклікаў рэпрэсіўныя меры. У 1968 г. з БДУ былі выключаны студэнты філфака за збор подпісаў пад заявай з патрабаваннем вывучаць на беларускай мове ўсе прадметы.

Працягваўся працэс зменаў у беларускай тапаніміцы. У пасляваенныя гады з'явіліся сотні «трасянкавых» назваў вёсак і мястэчак: Фруктовы, Акцябр, Васток, Іменіе, Каўровая, Пабеда, Радуга, Рошча, Бодры, Барба, Вазнясенск, Луч, Новы Пахар, Расвет, Уютны, Янтарны, Рочышча і інш. Аб'ядноўваліся маленькія вёскі ў адну – знікалі самабытныя назвы. Скасаванне гістарычных назваў прыпала на 1948 – першую палову 50-х гг., а таксама на першую палову 1960-х гадоў, калі пачалася ўзбуйненне і ліквідацыя «неперспектыўных» вёсак. За 60-я – 70-я гады перасталі існаваць звыш 400 населеных пунктаў. У 1964г. было перайменавана больш за 270 вёсак, у 1969 г. – больш за 40. Вымыванне з тапанімікі спрадвечных беларускіх назваў спрыяла русіфікацыі мовы.

Замарудзіўся тэмп стварэння беларускай тэрміналогіі. У канцы 20-х гадоў навукоўцы Інбелкульта мелі ў сваёй картатэцы больш за 400 тысяч слоў-спецтэрмінаў у самых розных галінах навук: гуманітарнай, медычнай, прыродазнаўчай, матэматычнай, юрыдычнай і інш., былі выдадзены 24 зборнікі беларускай навуковай тэрміналогіі. Аднак сталінскія рэпрэсіі перапынілі гэтую працу, а картатэка загінула ў час вайны. У пасляваенны перыяд слоўнікі ствараліся ў накірунку зліцця моваў, дакладней, паступовага растварэння беларускай мовы ў лоне ўсесаюзнага сродку зносінаў рускай мовы.

Аднак і ў 60-70-х гадах русіфікацыйная плынь у некаторых тэрміналагічных падсістэмах была спынена і з'явіліся першыя парасткі натуральнай тэрмінатворчасці (успомнім тую ж свідравіну замест нафтавай шчыліны, радовішча замест скалькаванага месцанараджэння, абслуговы персанал замест няўклюднага абслугоўвання).

**Людміла ДЗІЦЭВІЧ**

# Вінцэнт Жук-Грышкевіч

10 лютага 2003 году спаўняецца 100 год ад нараджэння Вінцэнта Жук-Грышкевіча, выдатнага беларускага дзеяча, які адыгрываў свайго часу ў беларускім вызвольным руху значную ролю. Дзейнасьць ягоная абмала розныя галіны – пэдагагічную, навуковую, арганізацыйна-грамадзкую, палітычна-дзяржаўную й вялася не зважаючы на перасьледы, арышты, вязьніцы, ссылкі, канцэнтрацыйныя лягеры.

Нарадзіўся В.Жук-Грышкевіч 10 лютага, 1903 году ў беларускай рыма-каталіцкай сям'і ў мястэчку Будслаў Вялейскага павету. Пачатковую асьвету здабыў у Будславе, сярэднюю – у беларускіх гімназіях у Будславе й Вільні. Восеньню 1922 г. В. Жук-Грышкевіч паступіў на факультэт славянскай філялёгіі й гісторыі ўнівэрсытэту Карла ў Празе Чэскай і ў 1926 г. закончыў студыі як вучыцель сярэдняй школы.

У 1952 г. В.Жук-Грышкевіч абараніў на Атаўскім унівэрсытэце ў Канадзе дакторскую дысертацыю з галіны беларускае літаратуры на тэму «Лірыка Янкі Купалы» і атрымаў навуковую ступень доктара філязофіі з галіны літаратуры. Як пасьля др. В.Дж.Кэйз, праф. Атаўскага ўнівэрсытэту, на адной з канферэнцыяў БІНіМ у Атаве, Канадзе, сказаў: др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч быў першым беларусам, што здабыў дактарат на Атаўскім унівэрсытэце.



**Вінцэнт Жук-Грышкевіч з жонкай Раісай. 1962 г.**

Педагагічную дзейнасьць пачаў В.Жук-Грышкевіч, вярнуўшыся з Прагі Чэскай. У гадох з 1927–1939 ён быў вучыцелем у Віленскай Беларускай Гімназіі, дзе выкладаў гісторыю, беларускую мову й літаратуру. Гэтаксама быў выкладчыкам беларускае мовы ў Праваслаўнай духоўнай сэмінарыі і ў Вышэйшай школе палітычных навукаў у Вільні.

У Канадзе ад 1951 да 1954 году быў выкладчыкам на, сарганізаваным ягоным стараньнем пры ўнівэрсытэце Таронта (University Extention), лектараце беларусаведы.

Апрача пэдагагічнай працы, В.Жук-Грышкевіч з 19-ці гадоў праз усё сваё даўгое жыцьцё займаўся навуковай, нацыянальна-грамадзкай і палітычнай дзейнасьцьцю. Ужо ў 1922 г., у часе першых выбараў у польскі сойм, ён быў выбарчым інструктарам на Браслаўскі й Дзісьненскі паветы ад Беларускага выбарчага камітэту ў Вільні; агітаваў па сёлах і мястэчках за беларускіх кандыдатаў у польскі сойм і сэнат. Беларусы йшлі на выбары ў блёку гэтак званых меншасьцяў Польшчы.

У Празе В.Жук-Грышкевіч належаў да беларускіх студэнцкіх арганізацыяў; у Вільні браў актыўны ўдзел у беларускім «Навуковым таварыстве», «Беларускім вучыцельскім саюзе» і ў «Таварыстве беларускай школы» (ТБШ); супрацоўнічаў у часопісах і газэтах «Беларуская справа», «Наша справа», «Народны звон», «Сям'я й школа» й «Маладая Беларусь». У 1936 г. на агульным зьезьдзе польскіх гісторыкаў даў даклад на тэму «Роля беларускіх зямель у польска-літоўскай вуніі».

30 верасьня 1939 году, пасьля акупацыі Чырванаю арміяй Вільні, НКВД арыштавала В.Жук-Грышкевіча. Ён быў зьняволены ў турмах: Лукіскай, Беластоцкай, Вялейскай, Менскай, Полацкай, і ў Воршы. У 1940 г. прачыталі яму прыгавор, у якім было сказана, што ён «социально опасный элемент», ды вораг народу й савецкай улады й дзеля гэтага прысуджаны на 8 гадоў «исправительных трудовых лагерей». У Гэтых лягерох ён разам з сотнямі іншых вязьняў будаваў найболей паўночную – ад Белага мора да паўночнага Уралу – чыгуначную лінію.

У выніку дагавору генэрала Сікорскага з Молатавым быў звольнены, і каб урэшце вырвацца з Савецкага Саюзу, увосені 1942 году накіраваўся ў польскае войска, якое тады фармавалася з польскіх грамадзян.

З войскам гэтым, што было ў складзе 8-й Брытыйскай арміі, ён быў у Іраку, Палестыне, Эгіпце й пасьля ў Італіі. Браў удзел у бітве пад Монтэ Касіна. Пасьля спыненьня ў 1945 г. ваенных дзеяньняў у Італіі ён выкладаў у вайсковай польскай сярэдняй школе гісторыю й псыхалёгію. З вучнямі-беларусамі падрыхтоўваў грунт для заснаваньня арганізацыі ў Ангііі, куды ведама было, што яны разам з войскам перааедуць.

У 1946 г. В.Жук-Грышкевіч разам з жаўнерамі-беларусамі арганізаваў у Лёндане першую пасьля вайны на эміграцыі беларускую арганізацыю – Згуртаваньне беларусаў у Вялікай Брытаніі, быў ягоным першым старшынём. У гэтых гадох быў рэдактарам часопісаў "На Шляху" і «Беларус на Чужыне».

У студзені 1950 г. В.Жук-Грышкевіч пераяжджае ў Таронта і, як і ў Англіі, так і тут, стаецца мазгом і рухавіком беларускага нацыянальна-грамадзкага й навуковага жыцьця ў Канадзе.

Як сябра Згуртаваньня беларусаў Канады ставіць перад маладымі яшчэ сябрамі такія мэты й заданьні: «Нам патрэбая моцная нацыянальная арганізацыя, верная ідэалам 25 Сакавіка, Ураду й Радзе БНР. Беларуская нацыянальная арганізацыя павінна мець, як маральную апору Беларускую аўтакэфальную праваслаўную царкву. Нацыянальная арганізацыя павінна мець матарыяльную базу – свой для грамадзскага карыстаньня беларускі дом і сваю крэдытовую суполку. Каб мець значэньне, мы мусім браць удзел у канадзкім жыцьці, дзе мага быць прысутнымі». Паводле вось гэтых пастулялаў праз поўстагодзьдзе разьвівалася й давала вынікі беларускае нацыянальнае жыцьцё ў Канадзе.

Каб гэтыя мэты й заданьні асягнуць, В.Жук-Грышкевіч руліцца пра нацыянальнае ўзгадаваньне маладога грамадзтва. Артыкуламі на ўзгадаваўчыя, літаратурныя й гістарычныя тэмы ў газэце «Беларускі эмігрант», ды сваімі дакладамі на сьвяткаваньнях літаратурных і гістарычных угодкаў ён знаёміць грамадзтва зь літаратурай і гісторыяй Беларусі. Дбае пра ідэялягічнае здароўе Згуртаваньня беларусаў Канады (ЗБК). Каб ратаваць арганізацыю, пасьля яе расколу, ад занападу, ён арганізуе з найбольш нацыянальна сьведамых і дзейных сяброў здысцыплінаваную групоўку «Авангард», якая сама павінна трымацца й трымаць на духу й іншых сяброў; выдае часопіс «Бээнэравец». Групоўка сваё заданьне выканала. ЗБК аджыло, і існуе па сёньня ўжо 55-ты год.

Стараньнем В.Жук-Грышкевіча ў 1951 годзе пры ўнівэрсытэце Таронта быў адкрыты лектарат беларусаведы, на якім ён быў выкладчыкам. Ён ініцыятар і галоўны арганізатар 1-е Сустрэчы беларусаў Паўночнае Амэрыкі ў 1952 г. На міжнародным кангрэсе «Pax Romana» рэпрэзэнтаваў беларусаў у Таронта, Мантэалі й Квэбэк Сіты. Навязаў сувязь з украінскімі арганізацыямі й у іхнім Доме культуры даваў даклады зь беларускай літаратуры. Зарганізаваў Беларускую крэдытовую супалку – «Buelorussian (Toronto) Credit Union Ltd.» (1953). Супрацоўнічаў у газэтах «Беларускі Эмігрант» і «Бацькаўшчына».

4 верасня 1953 г. ажаніўся зь беларускай студэнткай Тарантонскага ўнівэрсытэту Раісай Жукоўскай, аўтаркай гэтых радкоў.

На пачатку 1954 г. Старшыня Рады БНР Мікола Абрамчык накіроўвае Вінцэнта Жук-Грышкевіча ў Мюнхэн арганізаваць і весьці беларускую сэкцыю радыё «Вызваленьне» – цяпер «Свабода». 20 траўня 1954 году беларуская радыёперадачы ўпершыню пайшлі ў эфір у Беларусь. На становішчы кіраўніка беларускай секцыі радыё «Вызваленьне» В.Жук-Грышкевіч быў да красавіка 1956 г., калі вярнуўся назад у Таронта.

У Канадзе йзноў поўнасьцьцю ўключаецца ў беларускае нацыянальнае жыцьцё. Супрацоўнічае з прафесарам Атаўскага унівэрсытэту др. В.Дж.Кэйз у апрацаваньні манаграфіі пра беларусаў Канады – «Canadians of Byelorussian Origin», дае матэрыял пра беларусаў Канады для кнігі «Canadian Family Tree». У 1966 г. арганізуе Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады, у 1967 – Беларускі Інстытут навукі й мастацтва ў Канадзе (БІНіМ). Ён першы старшыня абедзьвюх арганізацый, якія дзейныя па сяньня.

Вінцэнт Жук-Грышкевіч рэпрэзэнтуе беларусаў на агульна-канадыйскіх кангрэсах, у 1965 годзе як прадстаўнік Згуртаваньня беларусаў Канады бярэ ўдзел у зьезьдзе Рады Стагодзьдзя Канады ў Таронта. На Другім кангрэсе канадыйскіх славянаў у 1967 годзе ў Атаве В.Жук-Грышкевіч дае даклад «Беларусы й канадзская статыстыка» і даказвае, што беларусаў у Канадзе ёсьць болей 50 тысяч, і яны павінны фігураваць у статыстыцы Канады. Дагэтуль беларусоў у сьпісе этнічных групаў Канады зусім ня было. Як старшыня Каардынацыйнага камітэту беларусаў Канады перад перапісьсю насельніцтва Канады ў 1971 годзе выдае Камунікат у беларускай і ангельскай мовах, які заклікае канадыйцаў беларускага паходжаньня памятаць пра свае беларускія карэньні й паясьняе, як правільна трэба выпаўняць апытальнік. Запачаткаваная В.Жук-Грышкевічам акцыя кампаніі перад кожным перапісам Канады праводзіцца праз ККБК па сяньня, апошні раз у 2001 годзе. Ён ня будучы ніколі старшынём Згуртаваньня Беларусаў Канады, быў заўсёды ягоным духавым кіраўніком.

Як сябра Рады БНР і старшыня Сэкратару Рады БНР на Канаду В.Жук-Грышкевіч апрацоўвае праект рэарганізацыі Рады БНР, зьмены Статуту і стварэньня нацыянальна-палітычнай бээнэраўскай арганізацыі – Лігі БНР. Праект гэты, як дыскусійны матэрыял, ён прадстаўляе на 10-ёй сэсіі Рады БНР, што адбылася ў красавіку 1968 г. у Нью Ёрку. На гэтай сэсіі Вінцэнт Жук-Грышкевіч быў абраны першым заступнікам Старшыні Рады БНР.

Пасьля сьмерці, 29 травеня 1970 году, Міколы Абрамчыка Старшынём Рады БНР стаўся першы заступнік Вінцэнт Жук-Грышкевіч, а 11-я сэсія Рады БНР 29 травеня 1971 г. ў Нью Ёрку абрала яго Старшынём Рады БНР на наступны шасьцігадовы тэрмін.

За ягонага старшынства ў Радзе БНР быў прыняты па працягу чатырох сэсыяў Рады новы Статут Рады БНР. У 1973 г. В.Жук-Грышкевіч заснаваў і сарганізаваў «Фонд беларускіх падручнікаў», англямоўнага падручніка «Fundamental Byelorussian» – Беларуская Мова», апрацаваны Валянцінай Пашкевіч і рэдагаваны праф. Антонам Адамовічам. На 60-я ўгодкі Акту 25 сакавіка ў 1978 годзе В.Жук-Грышкевіч выдаў карту БНР і сваю працу "25 Сакавіка"; праз гады свайго старшынства рэгулярна выдаваў «Камунікаты Прэзыдыюму Рады БНР». На становішчы Старшыні Рады БНР ён быў да лістапада 1982 году – амаль да 80-годзьдзя свайго жыцьця.

Апошнім асягненьнем В.Жук-Грышкевіча трэба лічыць ягоны вядучы ўдзел у пабудове ў 1988 г., на 1000-я ўгодкі хрысьціянства ў Беларусі, Беларускага памятнага Крыжа ў Сьвятыні Пакутнікаў у Мідланд у Канадзе.

Вінцэнт Жук-Грышкевіч быў чалавекам прынцыповым, сільнае волі, энэргічным, ініцыятыўным, дзейным, выдатным арганізатарам і лідэрам. І быў ён поўнасьцьцю адданым беларускай вызвольнай справе. Ён, сын паняволенага народу, вераў, што Бог даў яму жыцьцё й сілы перажыць савецкія лагеры сьмерці па тое, каб аддаць сваё жыцьцё на службу Бацькаўшчыне – Беларусі. Акт 25 Сакавіка, як ён казаў, быў для яго «пуцьцяводнай зоркай» жыцьця, і павінен быць ёю для кожнага беларуса.

Жыцьцё Вінцэнт Жук-Грышкевіч закончыў 14 лютага 1989 году ў Бэры (Канада). Ашчадкі яго спачываюць на беларускім могільніку Жыровіцкае Божае Маці ў Іст Брансвіку ў ЗША. На надмагільным помніку выява Пагоні, арнамент з «Малое падарожнае кніжкі» Францішка Скарыны й напіс кірыліцай па-беларуску.

**Раіса ЖУК-ГРЫШКЕВІЧ,**
**Бэры, Канада,**
**Студзень, 2003**




**В. Жук-Грышкевіч – салдат арміі Андэрса. У вызваленым ад фашыстаў Рыме, сакавік 1945 года.**

# Мураванае асяроддзе

*Разглядаючы шэдэўры мураванай архітэктуры, міжволі ўзнікае пытанне: «А як практычна ішла будоўля? Хто абпальваў цэглу, рабіў дахоўку і вапну, цягаў і ўкладваў роўнымі радамі вялізныя камяні? Колькі людзей удзельнічала і хто імі кіраваў? Як навучаліся майстэрству?»*

На працягу амаль усяго сярэднявечча асноўная колькасць мураваных і драўляных збудаванняў у Беларусі ўзводзілася мясцовымі рамеснікамі, што ўваходзілі ў склад будаўнічых арцеляў.

**Арцель**

Слова «арцель» мае цюрскае паходжанне (ад слова «орта» – грамада) і шырока ўжываецца ў пісьмовых крыніцах XVI–XVII стагоддзяў. Былі і другія назовы аб'яднанняў будаўнікоў. Так, арцелі ноўгарадскіх будаўнікоў называлі «плотніцкімі дружынамі».

На тэрыторыі Беларусі мясцовыя самастойныя будаўнічыя арцелі вядомы з XII стагоддзя. Існавалі яны і пазней, нават у першай палове XX стагоддзя. Звычайна арцель складалася з некалькіх дзесяткаў (да 30 чалавек) высокакваліфікаваных муляраў і некалькіх цесляроў, якія падчас будаўніцтва падмуркаў і дахаў рабілі рыштаванні, будаўнічыя прылады, вокны і дзверы, драўляныя канструкцыі, а таксама з майстроў па вырабе цэглы і нарыхтоўцы вапны. Майстры-цагельнікі мецілі сваю прадукцыю спецыяльнымі знакамі, меткамі або клеймамі. Па іх можна прасачыць сувязі паміж рознымі арцелямі будаўнікоў. У некаторых выпадках знакі сустракаюцца і на плітках падлогі (Гродна, Тураў).

У XII стагоддзі існавалі княскія і манастырскія будаўнічыя арцелі. Імі кіравалі вопытныя майстры, якія, у адрозненне ад пазнейшых архітэктараў былі адначасова і праектантамі і выканаўцамі.

Полацкая зямля мела дзве самастойныя арцелі – полацкую і віцебскую. Полацкую на пачатку XII стагоддзя заснавалі кіеўскія майстры, якія збудавалі Вялікі сабор Бельчыцкага манастыра. Благавешчанская царква ў Віцебску, магчыма, узведзена чарнігаўскімі майстрамі пад кіраўніцтвам візантыйскага дойліда, якога, відаць, прывезлі з сабою полацкія князі, калі вярнуліся на Радзіму з выгнання.

Зараз толькі ў Полацку вядома 10 архітэктурных помнікаў, створаных полацкай будаўнічай арцеллю. Да нас дайшло імя полацкага майстра Івана, які пабудаваў Спаса-Праабражэнскую царкву Ефрасіннеўскага манастыра. Віцебскія майстры акрамя Благавешчанскай царквы і іншых, пакуль невядомых нам храмаў узвялі асноўны аб'ём царквы ў Навагрудку, але скончылі яе (прыбудова галерэі) полацкія рамеснікі. У канцы XII стагоддзя манументальная будаўніцтва ў Полацкай зямлі спынілася. Полацкія дойліды заснавалі архітэктурную школу ў Смаленску і прынялі ўдзел у будаўніцтве царквы Пятра і Паўла ў Ноўгарадзе.

З дапамогай полацкіх майстроў у другой палове XII стагоддзя была створана самастойная будаўнічая арцель у Гародзенскім княстве. Акрамя палачан у Гародню прыехалі валынскія муляры, якія перад гэтым працавалі ў Луцку і Тураве. У склад арцелі, несумненна, уваходзілі і мясцовыя майстры, у першую чаргу ганчары і цесляры. Кіраваў імі таленавіты і самабытны дойлід, імя якога мы, на жаль, не ведаем. Ён стварыў унікальныя па сваёй вонкавай аздобе храмы, княскі палац-хорам і абарончыя сцены, што ўвайшлі ў склад умацаванняў драўлянага гарадскога дзядзінца. У апошні час з'явілася меркаванне, што гародзенскім дойлідам мог быць вядомы архітэктар канца XII – пачатку XIII стагоддзя Міланег, які падчас хрышчэння атрымаў імя Пётр. Не выключана, што ён мог быць вучнем славутага полацкага дойліда Івана. Сёння нам вядомы шэсць манументальных пабудоў у Гародні і адзін храм (які пачалі будаваць і не скончылі) у Ваўкавыску, створаныя рукамі гародзенскіх рамеснікаў. Падчас раскопак 1988 г. на тэрыторыі Новага замка ў Гародні знойдзеныя рэшткі яшчэ адной каменнай пабудовы, магчыма, царквы.



Так насілі цэглу пры аднаўленні Сафійскага сабора і пры будаўніцтве Дома Ўраду ў Мінску. Гэты чалавек нясе на «казе» 27 цаглін. Вага кожнай 4 кг.



**Як будавалі?**

З чаго пачыналася будаўніцтва? Спачатку выбіралася месца для пабудовы. Для храму звычайна падбіралі пагоркі, адкуль яго было добра відаць здалёк, ужо на падыходзе да горада. Пачыналі будаўніцтва ў дзень, прысвечаны па царкоўным календары таму святому, чыё імя павінен быў атрымаць будучы храм. Праваслаўныя царквы ставілі апсідай (паўкруглы альбо прамавугольны выступ у сцяне, дзе знаходзіцца алтар) на ўсход, але накірунак вызначалі па сонцы і таму строгай арыентацыі не было.

На будаўнічай пляцоўцы, недалёка ад месца будоўлі, за год-два да яе пачатку рабілі яму, у якой гасілі вапну. Такія ямы знойдзены пры раскопках храмаў у Мінску і Ваўкавыску. Калі вапна была гатова, з дапамогай шнура і мернага сажня вызначалі на зямлі план і пачыналі капаць ямы пад падмуркі. Капалі зямлю драўлянымі рыдлёўкамі, краі якіх былі акаваны жалезам. Пакуль ішлі земляныя работы, на вазах падвозілі камяні для падмуркаў, пясок і ваду для рошчыны, абпаленую цэглу, якую складалі штабялямі ў пэўным парадку. Дарэчы, такія штабялі цэглы, падрыхтаванай да будаўніцтва, археолагі знайшлі ў Ваўкавыску. Недалёка ад цэглы ляжалі шліфаваныя камяні для аздобы фасадаў храма.

Пасля таго, як былі выкапаны равы для падмуркаў, пачыналі будаваць. У XI і пачатку XII ст/ у аснову падмуркаў у Полацку закладвалі драўляныя бэлькі-лагі, на перакрыжаваннях іх замацоўвалі жалезнымі каванымі цвікамі-кастылямі. Потым ад гэтага адмовіліся і падмуркавыя равы проста засыпалі невялікімі камянямі больш-менш аднолькавага памеру і залівалі вапнавай рошчынай. Затым браліся за справу муляры. Памочнікі падносілі ім цэглу патрэбнага памеру і рошчыну ў драўляных начоўках. Ваду падавалі ў цэбрах.

**Чым будавалі?**

Муляры карысталіся металічнымі кельнямі. Такая кельня XII ст. знойдзена намі ў Полацку, падчас раскопак Бельчыцкага манастыра. Яна мае па краях акантоўку вышынёй каля 1 см. Відаць, яна зроблена для таго, каб рошчына не злятала з краёў прылады. Кельня выкавана з аднаго кавалка жалеза і мае дзяржальную паўкруглай формы, у якую ўстаўлялася драўляная ручка. Кельня XVI–XVII стст. знойдзена падчас раскопак сутарэнняў на Старым замку ў Гродне. Па форме яна нагадвае наканечнік дзіды. Падобную кельню XV–XVI стст. знайшоў Міхась Ткачоў падчас раскопак у Мядзельскім замку.

Адначасова з мурамі раслі драўляныя рыштаванні вакол іх. Яны значна адрозніваліся ад сучасных, бо не прывязваліся да муроў, а мацаваліся так, што канцы брусоў насцілаў закладваліся непасрэдна ў муроўку. Пасля заканчэння будаўніцтва іх адразалі альбо вымалі. Зрэдку адтуліны ад іх закладвалі, але ў большасці выпадкаў яны заставаліся і імі можна было карыстацца, каб выставіць рыштаванні для рамонту будынку. На Беларусі такія рыштаванні існавалі да XVII ст. Цікава, што пры пабудове Полацкай Сафіі (XI ст.) насцілы рыштаванняў клаліся на круглых жэрдках (захаваліся круглыя адтуліны ў муроўцы), а пачынаючы з XII ст – толькі на прамавугольных брусах. Адтуліны ад брусоў рыштаванняў на вежы Мірскага замка маюць памеры прыкладна 18х20 см, а на вежах замка канца XVI ст/ у Любчы – 20х20 см.

Цэглу для муроўкі насілі з дапамогай спецыяльных заплечных насілак, якія мелі назву «каза». Канструкцыю прылады складала гарызантальная аснова ў выглядзе невялікай дошкі, прымацаванай пад прамым вуглом да вертыкальнай дошкі даўжынёю каля метра і з ручкамі, «рагамі» на ўзроўні плеч насільшчыка. На «казу» нагружалі па 25–30 цаглін і, нават, болей. Усё залежала ад вагі цагліны. Цікава, што каза дайшла да сярэдзіны XX ст. і з яе дапамогай будавалі, напрыклад, Дом ураду ў Менску.

Будаўніцтва вялося толькі ў цёплы перыяд года. Невялікую бажніцу маглі ўзвесці за адзін сезон, а храм сярэдніх памераў – за два-тры гады. На зіму незакончаныя сцены пакрывалі тоўстым слоем вапнавай рошчыны і пакідалі да вясны.

Падавалі рошчыну, ваду і цэглу на рыштаванні па лесвіцах і на спецыяльных блоках з дапамогай вяровак. Падобныя сістэмы блокаў добра відаць на гравюры Францішка Скарыны з выдання 1518 г., дзе ён адлюстраваў тагачаснае будаўніцтва. Побач рамеснікі абчэсвалі кавалкі колатага камення, выраблялі з іх блокі для пабудовы сцен. Такія каменныя загатоўкі знойдзены намі падчас даследавання навагрудскай бажніцы XII ст.

Пачынаючы з другой паловы XIII стагоддзя ў Беларусі, акрамя культавых і грамадзянскіх будынкаў з каменю і цэглы, узводзяцца мураваныя замкі і вежы. Пераход да новай будаўнічай тэхнікі выклікаў патрэбу ў прафесійных дойлідах, якіх нярэдка запрашалі з розных краёў. Так, валынскі дойлід Алекса ў 1276 г. заклаў горад Камянец на рацэ Лясной. Мяркуюць, што ён у 1271–1289 гг. пабудаваў у драўляным замку Камянецкую вежу.

**Будаўніцтва ў часы ВКЛ**

З XIV да канца XVIII стагоддзя будаўнічая тэхніка Беларусі і Літвы знаходзіцца ў вельмі цесным кантакце і прынцыпова адзіная (ёсць толькі пэўныя рэгіянальныя адрозненні), бо арцелі вандравалі па ўсёй краіне без усялякіх абмежаванняў.

Паколькі сваіх майстроў не ставала, запрашалі замежных. Па запрашэнні князя Гедыміна ў 30-я гады XIV стагоддзя ў краіну прыехалі паўночнанямецкія рамеснікі. Магчыма, яны ўдзельнічалі ў будаўніцтве Лідскага замка.

У XIV–XVII стагоддзях колькасць членаў будаўнічых арцеляў павялічылася часам да 100 чалавек і болей. Напрыклад, у 1497 г. на будаўніцтве Вострай Брамы ў сярэднявечнай Вільні пад кіраўніцтвам майстра-архітэктара працавалі 16 майстроў-муляраў, 96 рамеснікаў-памочнікаў, 48 цесляроў, 300–400 дапаможных работнікаў і 36 фурманаў (кожны з парай коней).

Узвядзенне і рамонт гарадскіх умацаванняў Магілёва адбываліся пад непасрэдным кіраўніцтвам магістрата. Ён выдзяляў грашовыя сродкі і прызначаў спецыяльных адказных асоб, што «заведовцами были коло реставрирован валу». Гэтыя людзі («посполитые») клапаціліся пра будаўнічыя матэрыялы, падрыхтоўвалі інструмент і арганізоўвалі саму працу. Спецыялісты па ўзвядзенні земляных валаў і бастыёнаў называліся валмайстрамі, а грабары – «капачамі». Цяжкія будаўнічыя работы па старадаўняй звычцы праходзілі пад музыку. На кожным будаўнічым участку расхаджваў «добыш» – барабаншчык і «бубніў», ствараючы размераны працоўны рытм.

Акрамя вандроўных будаўнічых арцеляў спачатку ў вялікіх, а потым і ў прыватнаўласніцкіх беларускіх гарадах ствараюцца цэхі муляраў. Першыя (магчыма, і будаўнічыя) цэхі вядомы ў Беларусі з сярэдзіны XVI стагоддзя.

Цэхавыя рамеснікі падзяляліся на майстроў, чаляднікаў (падмайстраў) і вучняў. Тэрмін навучання рамяству ў кожным цэху быў розны, напрыклад, у цесляў Мінска ён працягваўся 4 гады. Потым вучня пераводзілі ў чаляднікі, і ён працаваў у майстра яшчэ 3–4 гады. Затым чаляднікі накіроўваліся ў так званую вандроўку – на працу ў іншыя гарады на 1,5–3 гады. Вярнуўшыся з «вандроўкі», чаляднік здаваў экзамен. Экзамен пінскіх цесляў складаўся з дзвюх частак. Спачатку яны рабілі канструкцыю даху пад дахоўку, а потым – унутраную лесвіцу ў жылым будынку. Прэтэндэнт павінен быў прадэманстраваць і свае архітэктурна-мастацкія здольнасці.

Архітэктары, праектанты і выкладчыкі архітэктуры на тэрыторыі Беларусі рыхтаваліся ў езуіцкіх калегіумах. Беларускі дойлід Уладзіслаў Дзягілевіч, які атрымаў адукацыю ў Вільні, на пачатку XVIII стагоддзя працаваў у Оршы, Нясвіжы, Мсціславе, Жодзішках. У 1707 г. у Мсціславе ён узвёў вялізны драўляны касцёл, а крыху пазней у 1711 г. адбудаваў спалены дом езуіцкай місіі: паставіў драўляную вежу са званамі і гаспадарскія будынкі.

Адначасова з архітэктарамі-прафесіяналамі да канца XVIII стагоддзя працавалі і будаўнічыя арцелі на чале з майстрамі-самавукамі. Так, магілёўскую ратушу ў 1679 г. пачаў будаваць майстар Феска, у 1681 г. да яго далучыўся майстар Апанас. Ратушную вежу пабудавала арцель майстра Ігната.

У другой палове XVIII – першай палове XIX стагоддзя ў Беларусі працавала дынастыя Падчашынскіх. Архітэктар Караль Падчашынскі збудаваў касцёлы ў Жырмунах (Воранаўскі раён) і Мяляцічах паблізу Крычава. Яго сын Ян кіраваў пабудовай слуцкай гімназіі, мазырскага вучылішча, касцёла ў Жалудку і палаца ў Жылічах.

У XVIII–XIX стагоддзях рамкі дзейнасці будаўнічых арцеляў звужаюцца і яны паступова знікаюць. Асобныя сезонныя арцелі існавалі да першай паловы нашага стагоддзя.

**Алег ТРУСАЎ,**
**кандыдат гістарычных навук**

 



# Прывід Лошыцкай сядзібы

***Пра добраўпарадкаванне аднаго з рэдкіх старажытных куткоў беларускай сталіцы – занядбанага Лошыцкага сядзібна-паркавага комплексу – гаворыцца з канца 1980-ых. Але словы, як тое часта ў нас бывае, са справамі разыходзяцца. Не так даўно мінскія ўлады зацвердзілі новы праект аднаўлення тамтэйшага парку і шэрагу збудаванняў. Калі праект гэты ажыццявіцца, Лошыца можа стаць самым улюбёным месцам адпачынку менчукоў.***



Першым этапам станецца рэканструкцыя цэнтральнай часткі Лошыцкага парку, у першую чаргу галоўнай ягонай алеі, а таксама тэрыторыі, што прылягае да маёнтка. Сам ён, як мяркуецца, будзе адрэстаўраваны да 2005 года, пасля чаго будзе функцыянаваць як музей.

Дзесяць гадоў таму разлічылі, што на рэстаўрацыю Лошыцкай сядзібы нібыта трэба 500–700 тысяч даляраў. Зараз афіцыйна каштарыс рэстаўрацыйных работ пакуль не называецца. Адно зразумела, што грошай патрабуецца багата. Апошні больш-менш грунтоўны рамонт праводзіўся тут падчас вайны з ініцыятывы гаўляйтэра Кубэ. Будынак драўляны і даўно струхнелы. Абвальваецца тынкоўка, згніла кроква. Знаходзіцца ў пэўных частках маёнтка нават небяспечна для жыцця. Так што працы тут непачаты край. Што да рэстаўрацыйных работ, якія вяліся тут цягам прыкладна дзесяці гадоў з горам напалам, то цалкам быў зроблены толькі нулявы цыкл (камунікацыі). Хоць па ранейшым плане рэстаўрацыі яна мусіла быць цалкам завершаная яшчэ ў 1995 годзе.

Каб толькі новы праект рэстаўрацыі Лошыцкай сядзібы не апынуўся ў доўгай скрыні з добрых намераў! Гэтак можна дачакацца, што будынак зусім разбурыцца. Хочацца верыць таксама, што будзе праведзеная сапраўдная рэстаўрацыя, што не прыедуць экскаватары з «бабай» зносіць перабываючы ў аварыйным стане маёнтак (гэта тры чвэрці ад усяго будынка, прычым самыя каштоўныя: ад роспісаў на сценах да старых печак), каб потым узвесці на гэтым месцы копію. І яшчэ хочацца верыць, што ў адрэстаўраванай сядзібе насамрэч размесціцца музей. Бо самыя розныя ходзяць чуткі: маўляў, тут хочуць зрабіць мінгарвыканкамаўскую рэзідэнцыю ці забаўляльны цэнтр.

Але ў Лошыцы, апрача маёнтку, ёсць яшчэ некалькі цікавых збудаванняў. Якраз іх аднаўленне і ёсць другім этапам рэалізацыі згаданага праекта рэканструкцыі Лошыцкага сядзібна-паркавага комплексу. Гэтак тут будуць адноўленыя і зафункцыянуюць карчма, карэтны двор, бровар, флігель, млын, праваслаўная царква і каталіцкая капліца.

Працы багата. Тую ж капліцу, напрыклад, давядзецца аднаўляць з самага нуля. На сёння ад яе засталася стаяць толькі адна са сценаў. Рэшткі капліцы знаходзяцца не навідавоку, а збоч галоўнай паркавай алеі. Яны схаваныя за дротавай агароджай, дрэвамі і кустоўем і абкружаныя пчалінымі вуллямі.

Таму мала хто з наведнікаў Лошыцкага парку наогул ведае пра капліцу сцяну, якую можна заўважыць хіба што ўвосень, калі ападае лісце. Тады праз галлё і можна разгледзіць шэрую з чырвонымі цаглянымі шчарбінамі сцяну. Прычыны гэткага стану капліцы – лёс, час і абыякавасць людзей.

Капліца (ад лацінскай capella) – гэта невялічкае культавае збудаванне для малітваў і пахаванняў без асобнага памяшкання для алтара. У Беларусі яны пачалі ўзводзіцца прыкладна з XVI стагоддзя. Капліцы маглі быць мемарыяльныя, пахавальныя, манастырскія, замкавыя, сядзібна-палацавыя, шпітальныя, школьныя, прыдарожныя і на могілках. А па архітэктурнай форме – прамакутныя, цэнтрычныя (то бок квадратныя альбо шасці – і васьмігранныя), аздобленыя вежачкамі ці ламанымі дашкамі.

Лошыцкая капліца – сядзібна-палацавая і васьмігранная з шатровым дахам, завершаным шлемападобным купалам. Пабудаваная ў другой палове 18-га стагоддзя ў стылі барока. Напачатку наступнага стагоддзя выява капліцы ёсць на акварэлі Юзафа Пешкі з панарамай усёй Лошыцкай сядзібы.

Капліцы ў Беларусі былі і каталіцкія, і праваслаўныя. Лошыцкая была каталіцкай, паколькі ўсе гаспадары Лошыцы былі каталікамі. У 80-ых гадах 18-га стагоддзя намаганнямі прадстаўнікоў роду Прушыньскіх капліцаператвораная ў алтарыю. Капліца-алтарыя стала філіяльным касцёлам Каралішчавіцкай каталіцкай парафіі. Сюды пачалі збірацца на набажэнствы жыхары навакольных вёсак і, натуральна, насельнікі самой Лошыцы.

Афіцыйныя набажэнствы тут вяліся да 1863 года, калі пасля задушэння паўстання Кастуся Каліноўскага яны былі забароненыя. Зрэшты, як і ва ўсіх іншых каталіцкіх храмах. Нягледзячы на гэта, набажэнствы час ад часу служыліся. Рабілася гэта падпольна. А ў 1905 годзе, паводле «маніфестаўскага» ўказа расійскага цара Мікалая II аб шэрагу палёгкаў у рэлігійным і свецкім жыцці, набажэнствы былі адноўленыя. Яны працягваліся да сярэдзіны 1920-х гадоў, пакуль капліцу не зачынілі бальшавіцкія ўлады.

Зараз ад Лошыцкай капліцы засталася адзінока стаяць усяго толькі адна сцяна-грань. Толькі яна ацалела, бо бальшавікам мала было проста зачыніць старажытную капліцу. Яна не проста перастала функцыянаваць як рэлігійны спаруд: тут сталі захоўваць сельскагаспадарчыя прылады беларускага аддзялення Усесаюзнага інстытута раслінаводства і саўгаса «Лошыца». Але перад гэтым, каб збезаблічыць і знявечыць капліцу, з яе знеслі купал.

У 1930-ых гадах, як расказваюць старажылы тутэйшых мясцінаў, капліцу наогул узарвалі падчас ваенных вучэнняў у наваколлі. Маецца і іншая версія, што капліца была ўзарваная крыху пазней у часе Другой сусветнай вайны фашыстамі, якія трымалі ўнутры яе склад боеприпасаў.

Капліца была не толькі месцам правядзення набажэнстваў, тут былі падземныя фамільныя пахавальні гаспадароў Лошыцы. Астатняй у капліцы-алтары ў 1905 годзе была пахаваная жонка апошняга ўладальніка Лошыцы Яўстафія Любаньскага – Ядвіга Кяневіч, якую ён дужа кахаў. Бальшавікі, калі перараблялі капліцу пад склад, свінцовую труну Ядвігі Кяневіч-Любаньскай, якая вісела тут, адправілі на акамулятары для мясцовай маторна-трактарнай станцыі.

Апошнія гаспадары Лошыцы былі ці не самай папулярнай парай у тагачасным Мінску. Пані Ядвіга ўтапілася ў Свіслачы: кажуць, нібыта праз каханне з мінскім генерал-губернатарам Мусіным-Пушкіным. Трагедыя здарылася ці то ад неўзаемнасці з ягонага боку, ці то пасля сваркі пані Ядвігі з мужам, які даведаўся пра жончыну здраду.

Пасля смерці жонкі пан Любаньскі затынкаваў акно ў пакоі, дзе жыла ягоная любая, а на беразе Свіслачы, каля таго месца, дзе знайшлі ў рацэ ейнае цела, пасадзілі абрыкос, які цвіце і дагэтуль. Паводле падання, напярэдадні Купалля і калі расквітнее той абрыкос, ад апоўначы да 3 гадзінаў ночы ў Лошыцы з'яўляецца прывід пані Ядвісі. Быццам бы яна з'яўляецца закаханым парам і падказвае ім, як жыць далей у каханні і згодзе.

Хочацца спадзявацца, што ў дзяржавы і іншых зацікаўленых у гэтым бакоў дойдуць-такі рукі і да рэстаўрацыі Лошыцкага маёнтку, і да аднаўлення самага разбуранага і закінутага гісторыка-культурнага аб'екта ў Лошыцы – капліцы. Старыя чарцяжы і фотаздымкі, як капліца калісьці выглядала, у архівах маюцца. Справа у першую чаргу за жаданнем.

**Мар'ян КАРЫМОНТ**

# *Белая Русь жыве ў В'етнаме*



**Злева і спправа Бацьі Нга – Белая Русь**

У 1988 годзе ў складзе кнігавыдавецкіх работнікаў пашчасціла мне прызямліцца ў Ханоі, а адтуль машынаю паўзакінскі бераг даехаць да дзівоснага горада Хюэ. Вось там я дазнаўся пра незвычайную дзяўчынку Баць Нга.

Бацька яе Нгуен Дзін Нго ў свой час вучыўся ў СССР, скончыў аспірантуру ў Ленінградзе. За сем гадоў вучобы ён пабываў у розных рэспубліках былога Савецкага Саюза. Найболей яго ўразіў гістарычны лёс беларускага народа, дзе было многа, на яго думку, супадзенняў з лёсам в'етнамскага народа – і распалавіненае зямлі (на Заходнюю і Усходнюю), і генацыд з вогненнымі вёскамі, падобны на пакуты в'етнамцаў у часе амерыканскай агрэсіі. І калі 26 чэрвеня 1983 года ў сям'і Нгуен Дзін Нго нарадзілася дачка, ён назваў яе такім роднасным іменем – Белая Русь: так літаральна перакладаецца з в'етнамскай мовы Баць Нга.

Мае новыя в'етнамскія знаёмцы, асабліва паэт Ле Чонг Шам, паведамлялі ў Мінск навіны ад імя маленькай Баць Нга. І вось яна вырасла ў прыгожую чарнявую русалачку (глядзіце двухпостацевы здымак). Піша, што авалодала ангельскай мовай, а рускую ў іх не вывучаюць.

Паколькі я сам кепска валодаю ангельскай мовай, дык прапаную чытачам газеты, хто добра валодае англійскай, дапамагчы Беларусі і Белай Русі не згубіцца ў гэтым заглабалізаваным клубку, мацаваць стасункі Мінска і Хюэ, прадаўжаць сустрэчы роднасных сусветаў.

Лісты лятуць доўга, а сёлета ў Баць Нга – да вялікай радасці – юбілей: 26 чэрвеня ёй споўніцца Дваццаць! Думаю, што знойдзецца ў Баць Нга многа сяброў-раўналетак. Маладым прасцей перапісвацца – у іх аднолькавыя мары, падобныя інтарэсы і клопаты. Ну і падстава вартая. На якім гэта мацерыку планеты жыве яшчэ адна цёзка нашай дзяржавы? Думаю, што гэта унікальны выпадак. Толькі Баць Нга жыве ў В'етнаме!

Магчыма, я адстаў ад жыцця, што не маю электроннага адрасу для ліставання. Маладым людзям гэты новы від сувязі ўжо звычны. Таму можа толькі першы ліст пойдзе традыцыйнай поштай, а потым перапіска з дапамогай камп'ютэраў набудзе сучасныя формы.

Для тых, хто зацікавіцца, паведамляю адрас Нгуен Баць Нга:

**Nguyen Bach Nga. 12B Hana. HUE.Vietnam.**

**Сяргей ПАНІЗЬНІК,**
**сябра Праўлення Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі**

 

# Вайна ці мір?

Прэзідэнт ЗША Джордж Буш прыняў рашэнне абнародаваць частку даных амерыканскай разведкі аб прысутнасці ў Іраку забароненых узбраенняў, якія старанна ўтойваюцца Багдадам.



Па сцвярджэнні прэсы, ЗША маюць разведвальныя даныя па іракскіх узбраеннях, якія былі схаваныя на загад іракскіх афіцыйных асобаў, звязаных з бліжэйшым асяроддзем іракскага дыктатара Садама Хусейна. Пры гэтым утойванне ўзбраенняў праводзілася на працягу апошніх двух месяцаў, за некалькі дзён ці нават гадзін да прыбыцця інспектараў ААН. Але ў той жа час дасведаная газета The Washington Post паведамляе, што амерыканскім спецслужбам не ўдалося знайсці ў Іраку значныя запасы забароненых узбраенняў ці кампанентаў, якія выкарыстоўваюцца пры вытворчасці хімічнай ці бактэралагічнай зброі. Таксама ЗША па-ранейшаму не маюць даных, якія б адназначна сведчылі пра наяўнасць у Ірака праграмы стварэння зброі масавага вынішчэння.

Дзяржаўны сакратар ЗША Колін Паўэл сцвярджае, што Ірак не адказаў на пытанні, дзе знаходзяцца ўзбуджальнікі сібірскай язвы, якіх нестае, што было зроблена з запасамі баявога атрутнага газу VX і дзе знаходзяцца хімічныя і біялагічныя баявыя запасы. Багдад таксама не даў інфармацыі па мабільных біялагічных лабараторыях і не адказаў на пытанне, чаму ён парушае забарону на стварэнне ракет з даўжынёй палёту болей за 150 км. Колін Паўэл дадаў, што іракскім вучоным не было дазволена весці гутаркі з інспектарамі ААН сам-насам, і што Ірак не дазваляе ААН выкарыстоўваць паветраную разведку.

Дзяржсакратар ЗША асабліва падкрэсліў, што ў Садама Хусейна «застаецца не шмат часу, каб выканаць патрабаванні рэзалюцыі Савета Бяспекі 1441 і раззброіцца».

Колін Паўэл лічыць, што ўсё, чаго ўдалося дамагчыся ад Ірака за два месяцы працы інспектараў ААН, зводзіцца да пустых заяваў, пустых дэкларацый і пустых жэстаў. Дзяржсакратар нагадаў пра суверэннае права сваёй краіны ў выпадку неабходнасці прыняць самастойнае рашэнне ўзначаліць кааліцыю тых, хто жадае раззброіць Ірак. Для Багдада час заканчваецца, сказаў Колін Паўэл, паколькі «мы не можам дазволіць працэсу інспекцыяў працягвацца вечна».

Наколькі адтэрмінуе пачатак падрыхтаванай вайны такая цярплівасць ЗША, ніхто не ведае. Але раней наступнага даклада інспекцыі ААН, запланаванага на 14 лютага, ваенныя дзеянні Амерыка не пачне.

# *Усама бен Ладэн – найвялікшая хлусня*

Пасля падзеяў 11 верасня амерыканскай разведцы патрабавалася хутка знайсці вінаватага, каб сусветная грамадскасць не завастрала ўвагі на тых прамашках, якія зрабілі спецслужбы ЗША. Па сцвярджэнню розных антываенных арганізацый, менавіта гэтак дэпартамент па стратэгічнаму ўплыву, які займаўся распаўсюджаннем падманнай інфармацыі, і прыйшоў да рашэння аб неабходнасці выдумаць персанаж з імем Усама бен Ладэн. Калі першыя апісанні і відэазапісы жахлівай якасці пачалі з'яўляцца на тэлебачанні, у інтэрнеце прамільгнула паведамленне, што насамрэч на іх паказаны акцёр і спявак Мохамед бен Юсуф.

Да гэтага моманту састарэлы донжуан Юсуф здымаўся толькі ў адносна папулярных мыльных операх і ў кінематаграфічных эпапеях у жанры «пеплум», зробленых на падставе арабскіх міфаў (кінематаграфічны жанр «пеплум» – касцюміраваныя фільмы, у аснову якіх пакладзена гісторыя Старажытнага свету). Аналіз відэаматэрыялу паказаў, што здымкі праводзіліся зусім не ў гарах Тора-Бора, а ў пячэрах Макрам-Суяз на Сінайскім паўвостраве. А некаторыя з паказаных кадраў былі створаны на кінематаграфічным плато, якое знаходзіцца недзе ў пустыні штата Невада, дзе таксама было знятае і добра сымітаванае «прызямленне» «Апалона» на Месяцы.

Злоўленыя з палічным супрацоўнікі міністэрства абароны і не падумалі абвяргаць інфармацыю, што патрапіла ў інтэрнэт, а наадварот, у выніку штучнага дэзнавеўру абарацілі абвінавачванні супраць сваіх абвінаваўцаў: маўляў, паглядзіце наколькі жахлівы бен Ладэн – ён нават скарыстоўвае двайніка, намагаючыся ўслізнуць ад нас. Цяпер можна зразумець, чаму амерыканскі спецназ, які да апошняга міліметра прачасаў усе горы Тора-Бора, так і не здолеў знайсці слядоў ачольніка Аль-Каіды.

Калі прытрымлівацца версіі аб выдуманым Ладэне, а яна пацвярджаецца катэгарычным нежаданнем распаўсюджваць «сакрэтныя» звесткі, якія маглі б злучыць тэрарыста № 1 з жахлівымі злачынствамі 11 верасня, дык атрымаецца, што амерыканскія спецслужбы ўзялі рэальную арганізацыю ісламскіх экстрэмістаў – Аль-Каіду, да якой дадалі выяву Ладэна, абсалютна безабароннную перад магчымымі маніпуляцыямі.

Між тым, сапраўдны лідэр гэтай арганізацыі – доктар Фаскіта-уль Юнат – застаецца на другім плане, але пры гэтым быў галоўнай мэтай амерыканскіх спецслужбаў. Усе падказкі праз СМІ, дзе шукаць гэтага чалавека, аказваюцца фальшывымі.

# Шлях да манархіі ў Расіі адкрыты?

## *«Нам шмат што здаецца немагчымым, а потым – бах!» В.В.Пуцін*

Хоць факты – рэч неадухоўленая, яны ўпартыя і красамоўныя, і супраць іх не папрэш. Вось ланцуг узаемазлучаных фактаў апошняга часу. Як загадаеце іх разумець?

1. Самаабвешчаная Расійская Федэрацыя, канстытуючыся як рэспубліка, якая ідзе па буржуазным шляху, узамен герба савецкага абрала не герб буржуазнай жа рэспублікі ўзору 1917 года, а герб імперыі Расійскай з усімі манархічнымі прычандаламі.

2. Нягледзячы на ўсім вядомыя фінансавыя і эканамічныя цяжкасці, настойліва аднаўляюцца Царскі ганак Гранавітай палаты і Тронная заля ў Вялікім Крамлёўскім палацы, у які пусцілі толькі аднойчы – на працэдуру інаўгурацыі Пуціна, якая прайшла на фоне задрапіраванага трона.

3. Шмат часу, сіл і грошай было выдаткавана на дзіўнае паддобрыванне да сямейства нашчадкаў Уладзіміра Кірылавіча Раманава (пры гэтым старанна ўтойваючы, што ягоны ўнук – натуральны Гогенцолерн). І ўсё гэта суправаджалася масіраванай манархічнай шуміхай у прэсе.

4. Тое ж самае ў адносінах пошукаў, атрыбуцыі і перазахавання астанкаў расстралянага сямейства Мікалая II. Для Рэспублікі, нават якая каецца, гэта занадта.

5. Грамадства спантанна аднаўляе інстытуты, уласцівыя менавіта манархіі: дваранскія сходы, купецкія сходы, саслоўе казакоў. Актыўна аднаўляе ў будзённым спажытку тытулы і ўрады продкаў. Яшчэ болей актыўна прымае для асобных сваіх членаў усялякія рыцарскія крыжы, дыпломы, мантыі, якія па старых правілах аўтаматычна надаюць дваранскую годнасць.

6. Рускае дваранства заўсёды было служылым, злітым з чынавенствам. Парадак службы і ўзвядзення ў дваранства рэгуляваліся «Табелем аб рангах». Цяперашні «Закон аб дзяржслужбе» амаль начыста спісаны менавіта з твору Пятра Вялікага. А сённяшні «государственный советник» – гэта просты пераклад на рускую мову «статского советника».

7. Галоўныя ордэны Расійскай рэспублікі – гэта аднолёныя ордэны Расійскай імперыі.

8. Неадпаведны для свецкай дзяржавы рост уплыву царквы, яе ўсё большае ўмяшальніцтва ў шматлікія аспекты дзейнасці свецкай улады і відочныя прэтэнзіі ўзяць пад духоўны кантроль школу і армію.

9. Дзіўны падарунак (невядома, ці ўручаны) айчынных ювеліраў – копія шапкі Манамаха. Недарэчная фантазія ці тонкае чуццё на нешта?



Дакладная копія шапкі Манамаха была выканана групай прыватных ювеліраў Расіі спецыяльна да 50-годдзя прэзідэнта У.Пуціна. Работа заняла некалькі месяцаў. Як і арыгінал, шапка аздоблена сабаліным мехам, ізумрудамі, рубінамі і жэмчугам. Яе мяркуемы кошт 50 тысяч даляраў. Арыгінал шапкі захоўваецца ў Збраёўні Крамля.

Гэта факты агульнага характару, якія ствараюць нейкую перыферыю, неабходны фон, пажыўнае асяроддзе для галоўных фактаў.

А вось і яны, гэтыя факты (без каментару па сутнасці пытання).

1. Кніга «От первого лица» (М., «Вагриус», сакавік 2000), старонка 168:

« – Если уж вы так исторически подходите к вопросам, то в традициях России заложена и монархия. Что же теперь, восстанавливать?

– Я думаю, что маловероятно. Но в целом... в определенные периоды времени... в определенном месте... при определенных условиях... монархия играла и играет до сих пор положительную роль... (гэта маё шматкроп'е, астатняя – аўтара. – М.Ж.). Монарху не нужно думать, изберут его или нет, мелко конъюнктурить, как-то воздействовать на электорат. Он может думать о судьбах своего народа и не отвлекаться на мелочи.

– А обо всем остальном подумает



премьер-министр. (Без пытальніка! – М.Ж.)

– Да, правительство. (Быццам пытанне ўжо вырашана. – М.Ж.)

– Но в России это невозможно. (Што немагчыма – манархія ці што прэм'ер будзе думаць? – М.Ж.).

– Вы знаете, нам многое кажется невозможным и неосуществимым, а потом – бах!..».

1. Зносіны Пуціна з народам (падаецца ў выкладзе): манархія – гэта няблага, але ў Расіі магчымая толькі як канстытуцыйная манархія. Але для гэтага патрэбныя добра развітыя дэмакратычныя інстытуты, а гэтага на Русі пакуль няма.

Тут я дазволю сабе каментар.

Па-першае, з чаго гэта раптам патрабавалася абмяркоўваць гэтае абсалютна неактульнае пытанне і тады, і цяпер? Падругое, якім чынам гэтыя пытанні прайшлі сіта папярэдняга адбору, былі ўключаны ў тэкст кнігі і ў фармат прамых зносінаў і чаму атрымалі такія шырокія адказы (у кнізе гэта наогул спецыяльны раздзел з уласнай назвай «Манарх можа думаць аб народзе»)? Па-трэцяе, Пуцін – рэальны палітык і цалкам заняты чалавек, і яму няма часу абмяркоўваць бессэнсоўныя гіпотэзы. Гэта робіцца толькі ў адным выпадку – калі яны разглядаюцца як магчымая рэальнасць.

А звыш гэтага – нядаўні Закон аб выбарах прэзідэнта РФ. Згодна з ім прэзідэнт можа выбірацца толькі на два тэрміны. Але... ужо ёсць прэцэдэнт (і адпаведных каментатараў і тлумачэнняў Канстытуцыйнага суда доўга чакаць не прыйдзецца), па якім тэрміны знаходжання губернатараў пры ўладзе лічаца з часу прыняцця закона аб іх выбарах, гэта значыць з 1999 года. А ўсё, што было «да», не бярэцца ў разлік. Такім чынам, тэрміны прэзідэнцтва павінны адлічвацца толькі з 2004 года і, значыць, да 2012 года.

А за гэты час можна без паспешлівасці так умацаваць дэмакратычныя, парламенцкія інстытуты, што можна і «бах!».

**Мікалай ЖУРАЎЛЁЎ**

**novayagazeta.ru**

# Віртуальныя сустрэчы



Сорок гадоў назад у Елісейскім палацы адбылася знакавая для ўсёй Еўропы падзея. Федэральны канцлер Федэратыўнай Рэспублікі Германіі Конрад Адэнаўэр і Прэзідэнт Францыі Шарль дэ Голь сваімі подпісамі замацавалі дагавор аб германа-французскім супрацоўніцтве, які засведчыў прымірэнне абодвух народаў у гістарычна разрозненай Еўропе. Елісейскі дагавор, дзякуючы высоакароднай палітычнай волі, адкрыў эру унікальнага супрацоўніцтва паміж дзяржавамі і даў жыццятворны імпульс для еўрапейскай інтэграцыі.

Дзеля палепшання зносінаў паміж 7 мільёнамі маладых людзей абедзвюх краінаў было створано Франка-германскае Маладзёжнае Бюро. З чэрвеня 2001 года Рэспубліка Беларусь таксама стала членам «клуба маладых еўрапейцаў» у рамках' універсітэцкага абмена паміж Свабодным універсітэтам Берліна, Універсітэтам «П'ер-Мендэс-Франс» Грэнобля і і Еўрапейскім гуманітарным універсітэтам Мінска.

З нагоды 40-годдзя Елісейскай дамовы Пасольства Федэратыўнай Рэспублікі Германі і Пасольства Французскай Рэспублікі ў Беларусі наладзілі святочны прыём. Апроч прывітальных прамоваў паслоў абедзвюх краінаў, канцэрта, які даў камерны аркестр Рэспублікі Беларусь з удзелам музыкантаў з Германіі і Францыі, у часе ўрачыстасцяў былі зачытаныя два лісты, сімвалічна скіраваныя да галоўных творцаў Дамовы. Гэта абраная студэнтамі ЕГУ форма асэнсавання вынікаў 40-гадовай гісторыі дзеяння дагавора ў сучаснай Еўропе. Прапануем іх увазе чытачоў.

## *Пісьмо Прэзідэнту дэ Голю*

Паважаны спадар Прэзідэнт дэ Голь!

Гэты зварот адрасаваны Вам, чалавеку, якім ганарыцца Ваш народ, а таксама і мы, прадстаўнікі іншага народа і іншай нацыі!

Францыя і Германія звязаны паміж сабой сёння больш, чым калі б то ні было раней. Глыбокія эканамічныя перапляценні і сумесная ключавая роля ў Еўрапейскім Саюзе патрабуюць цеснага супрацоўніцтва на ўсіх узроўнях.

Але можа ўзнікнуць пытанне: адкуль ідуць карані гэтага супрацоўніцтва? Як усё гэта пачыналася? Тут патрэбна назваць Ваша імя і імя Конрада Адэнаўэра, тагачаснага Федэральнага Канцлера Федэратыўнай Рэспублікі Германія. Вы падаравалі абедзвюм еўрапейскім краінам Елісейскі дагавор, 40-гадовы юбілей якога адзначаецца ў гэтым годзе. Інтэграцыя Федэратыўнай Рэспублікі ў заходнюю сістэму саюзаў, да дасягнення якой імкнуўся Федэральны Канцлер Конрад Адэнаўэр, а таксама палітычнае і эканамічнае згуртаванне Заходняй Еўропы патрабавалі прымірэння з суседняй краінай. Асабліва добрыя адносіны паміж Вамі і Адэнаўэрам у значнай ступені садзейнічалі збліжэнню абедзвюх краін.

Адносіны паміж Германіяй і Францыяй былі гістарычна вельмі абцяжараны. Толькі за апошнія 200 гадоў абедзве краіны пяць разоў вялі войны адна супраць другой. Загінула так шмат людзей, якія не былі ні ў чым вінаваты... Але абодва народы вырашылі пакончыць з гэтым. І тут можна дадаць, што вялікую ролю пры гэтым адыгралі асабістыя якасці кіраўнікоў дзяржаў.

Вы – генерал і Вы заснавалі «Еўропу айчынаў». У 1958 годзе Вы былі абраны Прэзідэнтам. У гады свайго знаходжання на гэтай пасадзе – а гэты перыяд пасля перавыбрання ў 1965 годзе працягваўся да 1969 года – Вы спынілі баі ў Алжыры, падпісалі ў 1963 годзе германа-французскі дагавор аб канчатковым прымірэнні паміж абедзвюма суседнімі дзяржавамі – Елісейскі дагавор. Вы заўважылі: «У Еўропе для Францыі ёсць толькі адзін магчымы партнёр, бадай, нават пажаданы партнёр, і гэта – Германія. Гэта – гістарычны цуд, але не менш, чым факт».

Падараваны Вамі свету Елісейскі дагавор па сённяшні дзень можа лічыцца выдатным прыкладам прымірэння з усімі народамі. Дагавор прадугледжваў, у прыватнасці, правядзенне рэгулярных кансультацый паміж урадамі і актыўны маладзёжны абмен. З яго падпісаннем распачаўся новы перыяд у сумесным жыцці абедзвюх суседніх дзяржаў. Асабістыя кантакты дапамагалі перадольваць існуючыя яшчэ прадузятасці.

Сёння ў абедзвюх краінах ёсць прэмія Адэнаўэра – дэ Голя для германскіх і французскіх журналістаў. Яна была заснавана 22 студзеня 1988 года ўрадамі Германіі і Францыі ў гонар 25-й гадавіны Елісейскага дагавора. Гэтай прэміяй адзначаюцца заслугі журналістаў у справе двухбаковага супрацоўніцтва.

А мы жывем зараз тут, у Беларусі. І калі спытаць, што маюць падобнага або агульнага Германія, Францыя і Беларусь, то сказаць тут можна шмат чаго. Сёння падпісваюцца розныя пагадненні і дагаворы, але нельга забываць сумеснага страшэннага мінулага: Германія і Беларусь перажылі сумесныя войны. Наша краіна вельмі моцна пацярпела. Мэце прымірэння з Беларуссю служыць заснаваны ў 1919 годзе Германскі народны саюз па догляду за ваеннымі магіламі. Сёння Народны саюз ажыццяўляе сваю працу па прымірэнню, запрашаючы ветэранаў вайны з Беларусі ў Германію. Кожны год у Германіі, а два гады запар ужо і ў Беларусі (г. Глыбокае) праводзяцца міжнародныя лагеры, у якія прыязджаюць юнакі і дзяўчаты з розных краін і разам ажыццяўляюць догляд за магіламі і мемарыяламі. Гэтыя лагеры працуюць пад дэвізам «Ніколі больш не дапусцім вайны». Народны саюз спадзяецца, што ён зможа яшчэ больш, чым да гэтага часу, садзейнічаць прымірэнню абодвух народаў. У сакавіку 2002 года ў Мінску было адкрыта пастаяннае прадстаўніцтва Народнага саюза. Але гэта толькі адзін станоўчы прыклад узаемадзеяння паміж Германіяй і Беларуссю. Ёсць шмат і іншых прыкладаў...

Катастрофа, якая адбылася 26 красавіка 1986 года на Чарнобыльскай АЭС, зрабіла Беларусь вядомай на ўсім свеце. Аварыя на ЧАЭС пакінула свае сляды прыкладна на адной трэці тэрыторыі краіны. І Германія быў адной з першых краін, якія прапанавалі Беларусі сваю дапамогу. На працягу больш чым 10 год германскія ініцыятывы, а таксама асобныя грамадзяне і групы ў рамках пагадненняў аб супрацоўніцтве з беларускімі партнёрамі актыўна ўдзельнічаюць у працы па ліквідацыі наступстваў Чарнобыльскай катастрофы. Асобныя ініцыятывы і арганізацыі ўвайшлі ў склад саюзаў і аб'яднанняў. Буйнейшымі з іх з'яўляюцца Германская асацыяцыя дапамогі пацярпеўшым ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, Асацыяцыя чарнобыльскіх ініцыятыў «Дзецям Чарнобыля» і г.д. Па ініцыятыве аб'яднання «Жыццё пасля Чарнобыля» (Франкфурт) быў створаны цэнтр «Надзея», які прадстаўляе сабой рэабілітацыйна-аздараўленчы цэнтр для дзяцей і падлеткаў, што пацярпелі ад наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.

Адзінае, што хацелася б тут яшчэ адзначыць – гэта наша жаданне, каб паміж Германіяй і Беларуссю таксама быў свайго роду «Елісейскі дагавор», жаданне, каб такая дружба інтэнсіўна развівалася таксама і з Беларуссю.

Ваш Елісейскі дагавор, паважаны спадар Прэзідэнт, з'яўляецца сапраўдным узорам для нас! Вы маглі б спытацца ў нас: на што здольны такі дагавор? На гэта ёсць таксама шмат адказаў. Папершае, можна было б узмацніць маладзёжны абмен, хацелася б таксама, каб развівалася больш цеснае супрацоўніцтва ў галіне культуры, таму што абедзве культуры маюць так шмат асабліваcцей, з якімі можна было б пазнаёміць абодва народы. Можна было б інтэграваць Беларусь у Еўрапейскую супольнасць.

І, урэшце, гэты дагавор мог бы садзейнічаць пабудаванню дэмакратычнай грамадзянскай супольнасці ў Беларусі! Гэтае пытанне дэмакратычнага грамадства з'яўляецца сёння ў нашым свеце найбольш актуальным. Такія нашы адказы на Ваша магчымае пытанне. Магчыма, калі-небудзь гэта атрымаецца, магчыма, нягледзячы на ўсе праблемы, якія існуюць зараз у Беларусі, мы знойдзем, беручы з Вас прыклад, новую плынь жыцця.

Вы навучылі нас: хто хоча знайсці ў памылковай плыні жыцця свой асабісты, новы шлях, павінен пабудаваць новую лодку, з матэрыялу дружбы, якая дапамажа свету.

Дзякуючы Вам ёсць жаданне і ёсць сілы ажыццявіць усё гэта, адкрыта размаўляць аб гэтым!

**Студэнты Інстытута нямецкіх даследаванняў Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта**

***Мінск, 22 студзеня 2003 г.***

## *Ліст да Канцлера Конрада Адэнаўэра*

Шаноўны спадар Канцлер,

Мы, студэнты Франка-беларускага Факультэта палітычных навук і праблем еўрапейскай інтэграцыі Еўрапейскага Гуманітарнага Універсітэта горада Мінска, маем гонар адрасаваць Вам гэты ліст з нагоды 40-годдзя з дня падпісання Елісейскага дагавора і стварэння Франка-нямецкага Бюро Моладзі, адным з галоўных заснавальнікаў якіх Вы з'яўляецеся. Місія дадзенага Бюро, якая заключаецца ў падтрымцы абменаў сярод моладзі, застаецца па-ранейшаму актуальнай і ахоплівае ўсё новыя і новыя галіны дзейнасці, даючы плённыя вынікі.

Шмат часу мінула з таго дня, калі было створана Франка-нямецкае Бюро Моладзі ў 1963 годзе. Змяніўся палітычны і гістарычны кантэкст. Аднак Франка-нямецкае Бюро Моладзі працягвае садзейнічаць, дзякуючы сваёй фінансавай, педагагічнай і лінгвістычнай падтрымцы, не толькі сустрэчам паміж народамі, але і сённяшнім разважанням аб міры ў Еўропе.

Ці ведалі Вы, спадар Канцлер, у момант стварэння Франка-нямецкага Бюро Моладзі, які маштаб набудзе Вашая ініцыятыва з цягам часу? Гэтая арганізацыя стала неад'емным сувязным звяном на перакрыжаванні стагоддзяў. 22 студзеня 1963 года, у час падпісання франка-нямецкага дагавора паміж Францыяй і Германіяй, агульная мэта аб'яднала маладых французаў і немцаў: узяць на сябе адказнасць за пабудову будучыні. Ці не з'явілася прымірэнне моладзі дзвюх краін падмуркам новай будаванай разам Еўропы? Еўропы, заснаванай на дараванні, талерантнасці і плюралізме. Той Еўропы, якую Вы нястомна імкнуліся пабудаваць і ў якой мы жывем.

Чаму ж гэтая роля ўскладзена на моладзь? Вайна не прайшла бясследна, пакінуўшы ў сэрцах і думках свой адбітак варожасці, а часам і нянавісці. Пакаленне 60-х гадоў, першае пакаленне, якое не зведала вайны, змагло распачаць загойванне ран. З цягам часу Франка-нямецкае Бюро Моладзі здолела не толькі прымірыць моладзь Францыі і Германіі, але ж і гарманічна ўпісацца ў працэс еўрапейскай інтэграцыі. Сёння, праз 40 гадоў, Франка-нямецкае Бюро Моладзі спрабуе зблізіць Усход і Захад. Халодная вайна ў рэшце рэшт скончылася. Франка-нямецкае Бюро Моладзі было адной з першых арганізацыяў, якія ўключыліся ў актыўнае супрацоўніцтва з краінамі, што былі з другога боку жалезнай заслоны. Арганізуючы шматбаковыя і шматнацыянальныя праграмы, якія аб'ядноўваюць французаў, немцаў і моладзь іншых краін Еўрапейскага Саюза, Цэнтральнай і Усходняй Еўропы і Афрыкі. Мы вельмі радыя паведаміць Вам, што першы этап трохбаковай праграмы, якую назвалі «Ад нацыянальнай ідэнтычнасці да ідэнтычнасці еўрапейскай: роля памяці» прайшоў у Мінску, у Беларусі, і даў свае вынікі. Нам вельмі прыемна адзначыць, што, нягледзячы на непаразуменні паміж Беларуссю і краінамі Еўрапейскага Саюза на афіцыйным узроўні, шматбаковыя культурныя зносіны інтэнсіўна развіваюцца. Пераасэнсаваць ролю калектыўнай памяці ў фармаванні нацыянальнай і еўрапейскай ідэнтычнасці – вось зыходная кропка сумесных дзеянняў і разважанняў, накіраваных на міжкультурнае супрацоўніцтва.

Але чаму Мінск, чаму Беларусь?

Па-першае, гэтая краіна знаходзіцца на перакрыжаванні Усходу і Захаду. Еўрапейскія канфлікты пакінулі глыбокі адбітак у памяці беларускага народа. Адбітак, чыё знікненне доўгі час затрымлівалася з прычыны халоднай вайны, спрыяючы памылковым уяўленням і стэрэатыпам сярод моладзі нашай краіны. Пры такіх абставінах было вельмі цяжка пераадолець горыч апошняга сусветнага канфлікту. Аднак часткова дзякуючы Франка-нямецкаму Бюро Моладзі, гэта стала магчымым.

Па-другое, пасля распаду СССР Беларусь сутыкнулася з шматлікімі праблемамі: яе не ўспрымаюць як незалежную дзяржаву; шмат хто ў той жа Еўропе не ведае геаграфічнага становішча Беларусі. Праект Франка-нямецкага Бюро Моладзі дапамагае не толькі налажванню зносін паміж Еўрапейскім дзяржавамі і Беларуссю, але і грае важную ролю ў фармаванні беларускай саматоеснасці.

Урэшце, гэты праект аб'ядноўвае студэнтаў-палітолагаў з Беларусі, Германіі і Францыі, студэнтаў, якія не паддаюцца ўплыву забабонаў і стэрэатыпаў часоў халоднай вайны. Яны нясуць поўную адказнасць за прыняцце будучых рашэнняў. Праект, разлічаны на тры гады, з 2002 па 2004, мае не толькі адукацыйную вартасць, але і вартасць узаемакультурнага ўзбагачэння. Сустрэўшыся разам, моладзь разумее, што, па сутнасці, іх хвалююць адны і тыя ж праблемы і што межы паміж дзяржавамі не ёсць межы паміж чалавечымі душамі, і тут няма падставаў для вайны.

Вось чаму Ваша бессмяротная ініцыятыва жыве ў сэрцах маладых людзей, якія жадаюць бачыць, як мір і супрацоўніцтва квітнеюць у адзінай Еўропе. Той Еўропе, якой Вы яе ўяўлялі ў момант распачынання праекту Франка-нямецкага Бюро Моладзі.

У сувязі з вышэйсказаным, дазвольце, шаноўны спадар Канцлер, выказаць Вам нашу самую глыбокую ўдзячнасць.

**Студэнты Франка-беларускага Факультэта палітычных навук і праблем Еўрапейскай інтэграцыі Еўрапейскага Гуманітарнага Універсітэта**

***Мінск, 22 студзеня 2003 г.***

# Творца Мегрэ

**80 старонак на дзень**

У лепшыя гады, калі Сіменон пісаў свае папулярныя раманы адзін за адным, ён мог па 11 гадзінаў сядзець за друкарскай машынкай і выдаваць па 80 старонак на дзень. 70 словаў за хвіліну! Ужо ў 24 гады гэты катаржнік Рэмінгтона мог напісаць 300 машынапісных радкоў за чвэрць гадзіны. Яго легенда яшчэ толькі пачыналася, і шмат людзей зайздросцілі гэтаму маладзёну, які, як казалі, дыктаваў па раману ў дзень. «Па адным у тры дні», – сціпла папраўляў ён сам.

**Шкляная клетка**

Журналіст Эжэн Мерль, заснавальнік Paris-Soir, неяк прыдумаў экзатычнае шоу – напісаць раман на вачах у публікі за тры дні, седзячы ў шкляной клетцы памерам 6 на 6 метраў. Гэта было ў 1927 годзе.

Жоржу Сіменону было 24 гады і, як паведамляла рэкламная брашура, на гэты час ён ужо напісаў «1000 апавяданняў і 60 раманаў». Калі праект Мерля быў абнародаваны, прэса нібыта сарвалася з ланцуга, абвінавачваючы пісьменніка ў тым, што ён ператвараецца ў жывёліну для выступлення на кірмашах. Як піша П'ер Асулін, лепшы біёграф льежскага мэтра, Эжэн Мерль і Жорж Сіменон



адмовіліся ад гэтай ідэі перад хваляй агульнага абурэння. Сам раманіст сцвярджаў, што «выканання рамана за шклом» так і не адбылося. Аднак шматлікія мемуарысты запэўнівалі, што бачылі, як Сіменон пісаў раман у клетцы – «на вачах у ашаломленай публікі». Каму болей верыць?

**Трубка Мегрэ**

За 42 гады сваёй кар'еры (1930–1972) Жуль Мегрэ прайшоў праз усе выпрабаванні. Да ліку самых жорсткіх з іх адносіцца страта ім сваёй люлькі, галоўнага аксесуару ягонага міфа, якую скраў дробны злодзей з аповесці «Трубка Мегрэ» (1947). Без сваёй трубкі Мегрэ – голы чалавек. На пачатку любога расследавання яна дапамагае яму думаць і ўспрымаць знешні свет. «Мегрэ зацягваўся люлькай, намагаючыся прасекчыся ў гэты свет, якога ён учора яшчэ не ведаў і які раптоўна ўзнік у яго жыцці» («Сумненні Мегрэ»). Жан Габэн, Мішэль Сімон, Жан Маэрль, Жан Рышар і Бруно Крамер, якія паслядоўна ўвасаблялі вобраз Мегрэ на экране, – усе яны мелі гэты неабходны аксэсуар, што стаў эмблемай на вокладцы кніг Сіменона і гербам пісьменніка.

**400 кніг**

Самыя фантастычныя ацэнкі колькасці напісанага Сіменонам – частка яго легенды. Раней чым выпусціць першую кнігу пад сваім імем («Нябожчык мес'е Гале», 1931), пісьменнік скарыстоўваў шматлікія псеўданімы. Нават спецыялісты не бяруцца дакладна акрэсліць колькасць раманаў, апублікаваных ім пад выдуманымі прозвішчамі. Самыя частыя з іх – Крысцін Бруль, Жан дэ Перы, Жорж Сім, Жак Дэрсон, Люк Дарсан, Гом Гут, Гастон Віалі. У перыяд паміж 1921 і 1931 гадамі выйшлі каля 190 твораў, якія належалі гэтым міфічным аўтарам. Пазней выйшлі дзесяткі больш сур'ёзных кніг, а таксама 103 гісторыі аб Жулі Мегрэ – ад «Начнога цягніка» (1930) да аповесці «Мегрэ і спадар Шарль» (1972). На думку біёграфаў пісьменніка, творчасць Сіменона налічвае ў агульнай колькасці 431 назву.

**Грошы**

«Зарабіць як мага болей грошай, пішучы кніжкі, потым супакоіцца і ўзяцца за літаратуру» – такі быў дэвіз 20-гадовага ўраджэнца Льежа, які прыехаў у Францыю збіць сабе капітал. Доўга чакаць яму не давялося. У 1933 годзе, калі ён заключыў свой першы кантракт з выдавецтвам Gallimard, ён абяцаў сваёму выдаўцу пісаць шэсць кніг на год у абмен на гарантаваны аванс за 50 тысяч асобнікаў у памеры 10% за першыя 10 тысяч накладу і 12% – за астатнія. Да гэтага трэба дадаць ганарары за працу ў аддзеле хронікі, за яго рэпартажы, за фільмы. У 1934 годзе Сіменон зарабіў агулам 712.000 франкаў.

Сіменон у аправе атрымання добрых ганарараў заўжды заставаўся ўдачлівым бізнесменам. Пасля вайны кантракт, падпісаны ім з выдавецтвам Presses de la Cite, даў яму 300 тысяч франкаў у якасці авансу, 15% – за 20 тысяч асобнікаў, 20% – за астатні тыраж, з захаваннем аўтарскіх правоў на замежныя публікацыі і экранізацыю сваіх твораў. У гісторыі французскай выдавецкай справы Сіменон быў адзіны, каму такое ўдалося.

**Фігаро**

## У навінку



**Навінкі з калекцыі мабільнікаў «Сіменс» пры выдатнай тэхнічнай шматфункцыянальнасці выглядаюць як модныя сучасныя аксэсуары і будуць прадавацца ў магазінах упрыгожванняў. Навінка разлічана найперш на моладзь.**

# У Мінску будзе жыць зубр

Хутка менчукам, каб пабачыць зубра, не трэба будзе ехаць у Белавежскую пушчу. Зубрыная пара з'явіцца ў Мінскім заапарку, што месціцца ў мікраёне Чыжоўка. Вось толькі ці прыжывуцца?

А ў Гродзенскі заапарк хочуць закупіць вярблюда і слана. Апрача таго, тут з'явяцца рысь, бізон, леапард. Адміністрацыя Гродзенскага заапарка лічыць, што прыспеў час пашыраць ягоную тэрыторыю. Адзін з варыянтаў дзеля гэтага – перанос заапарку ў іншае месца. Між тым, у Магілёве ўзяліся за будаўніцтва самага вялікага ў краіне заасаду плошчай 85 гектараў. Жывёлы тут будуць жыць у натуральным асяроддзі. Людзі змогуць назіраць за імі з адмысловых вышак, падвясных мастоў і металічных калідораў.

# Таямніца побач с табой

Вядома, што беларуская гітарная школа – адна з лепшых на постсавецкай прасторы. Такія майстры электрычнай гітары, як Леанід Вярэніч, Янка Маркаў, Уладзімір Ткачэнка, Уладзімір Угольнік, Слава Корань, былі сярод яе заснавальнікаў, стваралі традыцыі, і ў іх з'явіліся не менш таленавітыя паслядоўнікі.

Адным з такіх інструменталістаў-віртуозаў маладой генерацыі на беларускай рок-сцэне па праву называюць гітарыста гуртоў «Крама» і «Палац» Сяржука Трухановіча. Нагадаем, што Сяржук упершыню здабыў прызнанне свайго выканаўчага майстэрства яшчэ на фестывалі «Пакаленне'98» у Маскве, дзе ў складзе гурта «Крама» быў прызнаны «лепшай гітарай» гэтага фэсту. Ну а потым былі званні і ўзнагароды іншых імпрэз і апытанняў аж да таго, што Сяржук Трухановіч абіраўся сімвалам штогадовага суперфестывалю беларускай рок-музыкі «Басовішча»...

У дыскаграфіі Сяржука некалькі ўдалых запісаў у складзе сваіх «родных» гуртоў, а таксама сольныя працы. Перадапошняя – альбом «Кропка невяртання» – была прыхільна сустрэта крытыкай і слухачамі. Музыка вырашыў працягнуць сольную працу новым альбомам – «Нараджэнне таямніцы», які быў выдадзены на ВМАгруп і датаваны 2003 годам.

Відавочна, што сваім новым альбомам Сяржук Трухановіч вырашыў выправіць недахоп мінулай працы – зрабіць гэтую інструментальную кружэлку па духу беларускай. Па-першае, услед за музыкамі джаз-рокгурта «Apple tea» дыск аформлены па-беларуску. Акрамя гэтага, прынамсі, дзве кампазіцыі альбома – фолк-рокавая «Купальская» і віртуозная «Мінск-Мадрыд» – маюць «прывязкі» да беларускіх рэалій. У першай з іх выкарыстоўваецца старажытны купальскі найгрыш, які па-дзіцячаму непасрэдна праспявала дачка гітарыста – Ксенія. Своеасаблівы тэмбравы каларыт п'есе дадаюць гукі беларускай дуды, партыю якой у «Купальскай» выканаў Кастусь Трамбіцкі. «Мінск-Мадрыд», па словах музыкі, акрэслівае вектар музычнай і чалавечай цікаўнасці Сяржука Трухановіча – выразна еўрапейскі...

Выканаўчы стыль Сяржука Трухановіча выкрышталізоўваўся гадамі напружанай працы, вучобы, у тым ліку і ў такіх вядомых мінскіх музыкаў, як Янка Маркаў ды Уладзімір Угольнік. Таму відавочна іх захапленні блюзам не маглі не адбіцца на творчасці беларускага гітарыста. Менавіта хардблюзавыя інтанацыі сталі дамінантамі такіх кампазіцый альбома, як «Асуджаны да жыцця» і «Пакінуты горад». А яшчэ гэта даніна павагі той музыцы, якую Сяржук грае шмат гадоў у гурце «Крама».

Рознабаковасць выканаўчай манеры гітарыста робіць падуладным яму такія складаныя музычныя стылі, як джазрок, ф'южн, рытм-энд-блюз. У гэтай стылістыцы запісаны такія кампазіцыі дыска, як «Асуджаны да жыцця», «Поўня», «Мінск-Мадрыд», прысвячэнне сябру, гітарысту немецкага супер-гурта «Rage», нашаму земляку Віктару Смольскаму – «Дайце газу!» Нездарма для запісу гэтага дыска Сяржук Трухановіч запрасіў прафесійных музыкаў, для якіх джаз-рок не навіна: басістаў І.Сацэвіча і Ю.Фядзюка, клавішніка У. Гаўрыленку, бубнача А.Сапегу з джазрок гурта «Apple tea».

Галоўная ж кампазіцыя альбома «Нараджэнне таямніцы» захапляе магчымасцю музыканта перадаваць з дапамогай гітары цэлую гаму пачуццяў.

З іншага боку, кампазіцыі Сяржука напоўнены рок-н-рольным запалам, віртуозным імправізацыяй, незвычайнымі гітарнымі тэмбрамі ды каскадам выканаўчых прыёмаў («Шаравая маланка»). У той жа час беларускі гітарыст не імкнецца ўражваць псеўдавіртуознымі «запіламі» ў рэчышчы Стыва Вэя, якімі грашаць, напрыклад, расійскія калегі. Яго кампазіцыі – сапраўдныя музычныя п'есы, напоўненыя завершанымі думкамі і музычнымі фарбамі. Таму новы альбом Сяржука Трухановіча «Нараджэнне таямніцы» слухаецца як паўнавартасны музычны твор, аб'яднаны адзінай кампазіцыйнай ідэяй. Упэўнены, ён стане жаданым папаўненнем фанатэкі як аматараў добрай інструментальнай музыкі, так і прыхільнікаў нацыянальнага рок-руху і музыкі яго лідэраў – гуртоў «Крама» і «Палац».




Дададзім, што першыя копіі альбома «Нараджэнне таямніцы» Сяржука Трухановіча былі накіраваныя для азнаямлення кіраўнікам сусветнавядомых лэйблаў, штаб-кватэры якіх знаходзяцца ў Германіі, і атрымалі добрыя водгукі адтуль. Мы ж раім не чакаць прызнання беларускага музыкі за мяжой, а спрыяць яго творчаму росту тут, у Беларусі – набываць дыскі з неардынарнымі гітарнымі кампазіцыямі пасажамі Сяржука Трухановіча.

**Анатоль МЯЛЬГУЙ**

**Падпісны індэкс 63773**

Новы Час
Галоўны рэдактар **Алена АНІСІМ**

Заснавальнік: Мінская гарадская арганізацыя ТБМ імя Ф.Скарыны. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1798 ад 25 сакавіка 2002. Адрас:220005, Мінск, вул. Румянцава, 13 E-mail: nchas@promedia.by

Рэдактар нумару **Канстанцін Тарасаў**
Камп'ютэрная вёрстка **Андрэй Дзегцяроў**

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы.
Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў друкарні ТДА «Знамение», 220004, Мінск, вул. Кальварыйская, 24. Замова № 84
Падпісана да друку 30.01.2003 (12:00).
Наклад 2 050 асобнікаў.
Газету можна атрымаць у сядзібе ТБМ па адрасе: Мінск, вул. Румянцава, 13, тэл. 284-85-11